

№ 5(22)
Люты 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:





## Гучыць песня маленства...

*Лірычная вандроўка па скансэне – на стар. 6*

# Стрэчанне, ці Грамніцы

***Розныя гістарычныя з'явы адлюстраваліся ў назвах свята.***

***Два моманты могуць быць вызначальнымі ў гэтым сваце 15 лютага.***

Першы шырока адлюстраваны ў стрэчанскіх песнях, аснову якіх складае драматычны канфлікт – сустрэча зімы з летам (гэта дае падставу аднесці Стрэчанне да пачатку вясны):

*А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне,*
*Зіма з летам стрэлася, стрэлася,*
*І ножачку звіхнула, звіхнула.*
*Зіма пайшла плачучы, плачучы,*
*Лета пайшло скачучы, скачучы.*

Па сваёй музычнай структуры стрэчанскія песні блізкія да вяснянак, таму ўсе рытуалы «Гукання вясны» – птушкі з печыва, упрыгожаныя стужкамі галінкі дрэў, сплеценыя з саломкі сімвалы вясны, выявы сонца, кулікоў, жаваронначкаў – могуць быць выкарыстаны пры святкаванні Стрэчання.

Але асноўнымі з іх павінны быць два ачалавечаныя (антрапаморфныя) вобразы – Зімы і Лета – і іх песенныя гурты, якія ўвесь час размаўляюць- спрачаюцца паміж сабой песнямі:

*Зіма з летам сустракалася,*
*Пра здароўека пыталася:*
*– Здароў, зімачка з кастылькамі!*
*– Добрае здароўе, лецечка з кіенькамі!*
*Пайшла зімачка з кастылькамі,*
*Прыйшло лецечка з кіенькамі.*

Зразумела, што здольныя дзяўчаты, пераапранутыя Зімой і Летам, тэатралізуюць тэксты стрэчанскіх песень:

*– Ой, чалом, чалом,*
*цёплае лецечка!*
*– Ой, здарова была,*
*халодная зімачка!*
*– Што цябе, лецейка,*
*узвелічваюць,*
*Мяне, зімачку,*
*праклінаюць?*
*– Бо ты, зімачка,*
*халодная,*
*Лугі, балоты памарозіла,*
*Ой, я, лецечка, да вясёлае,*
*Лугі, горы ізмачыла,*
*Лугі, горы ўзвесяліла,*
*Ой, там хлопчыкі*
*збіраюцца,*
*Да на мёд, квас*
*складаюцца:*
*Ой, ты, Іваначка, кладзі*
*больш за ўсіх,*
*Твая Ганначка лепш*
*за ўсіх.*

Найбольш тэатралізаваная частка свята (такую аўтар назіраў у адной са школ Івацэвіцкага раёна) – магічнае падсмальванне крыж-накрыж прынесенай з царквы свечкай членаў сям'і, хатніх жывёл, крыжоў на хлявах, доме, бэльках. Гэта было водгукам старажытнага здабывання агню трэннем аднаго кіёчка аб другі – накрыж.

Грамнічныя, або, як іх часам называлі, ахоўныя, свечкі ігралі велізарную ролю ў святочным і паўсядзённым побыце людзей: з імі тройчы абыходзілі жывёлу на Юр'я перад першым выганам, на засеўках, з імі сустракалі маладых на вяселлі і дзіцятка на радзінах, клалі ў руку нябожчыку, з імі ішлі шукаць папараць-кветку ў купальскую ноч.

Акрамя песень, на Грамніцы гучыць многа яркіх прыказак: «Да Грамніц не скідай рукавіц, а як прайшлі Грамніцы, то ўжо не патрэбны рукавіцы», «На Грамніцы – зімы палавіца» і іншыя.

... Напярэдадні свята Грамніц, але часцей у апошнюю суботу перад ім, нават і ў тым выпадку, калі гэта субота прыпадала на мясаедныя Дзяды (на восьмым тыдні перад Вялікаднем. – **В.Л.**), кожны гаспадар сам сучыў для свайго дома свечку з прыхаванага воску вяршкоў у 10 даўжынёй і ў 3/4 вяршка таўшчынёй, гэта значыць такога памеру, які дазваляў бы схаваць свечку на грудзях пад верхняй вопраткай або ў рукаве і такім чынам утаіць ад чужых вачэй... Зробленыя свечкі не называліся грамнічнымі, а лічыліся толькі прыгатаванымі да Грамніц...

...На Грамніцы кожны гаспадар, а ў выключных абставінах гаспадыня, прыходзіў у царкву, дзе па чыну уніяцкага трэбніка «Блаславенне свечак на Грамніцы» чыталася над свечкамі пяць малітваў, іх кадзілі, крапілі вадой і тройчы асянялі крыжам. Гаспадары запальвалі асвечаныя свечкі, тушылі пераварочваннем уніз (вышэй пісалася, што ў некаторых мясцовасцях іх трэба было прынесці дахаты абавязкова запаленымі. – **В.Л.**), хавалі за пазуху, у рукаў або заварочвалі ў хустачку, і ўжо пад імі грамнічныя свечкі дастаўляліся дадому. Заўважалася: калі грамнічныя свечкі трашчалі ў час гарэння, – летам трэба чакаць грошай, і чым мацней, часцей быў трэск, тым часцей і страшней будуць летнія навальніцы, і наадварот...

... Дома гаспадыня запальвала свечку ў руках гаспадара, а ён крыжападобна абпальваў уласныя валасы на галаве, а затым рабіў тое ж самае з валасамі ўсіх членаў сям'і па старшынству. Пасля гэтага ўся сям'я на чале з гаспадаром і гаспадыняй ішла ў абору (хлеў), дзе гаспадар зноў жа крыжападобна абпальваў шэрсць кожнай жывёлы паасобку, датыкаўся полымем свечкі да кожнай сцяны, вушакоў дзвярэй, у пчальніку да кожнага вулля. Па вяртанні ў хату гаспадар тушыў і хаваў свечку, каб ліхадзей не мог бачыць яе, не ведаў бы аб прысутнасці прадмета, які процідзейнічаў яго злым намерам...

Песеннасць, вонкавая маляўнічасць, рытуалы з агнём прыцягальныя для дзяцей у сваце Стрэчання. Яно можа быць арганізавана і ў хатніх, і ў школьных умовах, лёгка пераносіцца на сцэну, тэатралізуецца. Яно можа святкавацца самастойна і як прэлюдыя да «Гукання вясны», таму што гэтыя святы ўзаемазвязаны не толькі каляндарна, але і па сваёй мастацкай структуры. Па-сапраўднаму, эмацыянальна, з веснавымі воклічамі выкананыя дзецьмі вяснянкі вельмі папулярны. Яны адэкватны дзіцячаму голасавядзенню і псіхалогіі няўрымслівай, эмацыянальнай дзіцячай душы і ўпрыгожаць святкаванне Стрэчання ў калектыве. У яго канву трэба як мага шырэй уплесці стрэчанскія гульні, скокі, карагоды, забавы з агульнай скарбонкі веснавой святочнасці.

***Васіль ЛІЦЬВІНКА,***
***фалькларыст***





*Прадаўжальнікі традыцый*

Кавальства ў сваім традыцыйным выглядзе – рамяство сёння даволі рэдкае. Праўда, майстры-металаапрацоўшчыкі і сёння ёсць практычна ў кожнай калгаснай ці саўгаснай гаспадарцы, але ўсё больш яны ўпраўляюцца з газа- ці электразваркай, часта не могуць адкаваць звычайную падкову, па чым калісьці вызначалася майстэрства каваля.

Адама Селюжыцкага з Баранавіцкага раёна можна без перабольшання лічыць сапраўдным кавалём. Ён і падкову адкуе, і драпашку, і каня падкаваць можа. Сваё майстэрства Адам Мікалаевіч з поспехам прадэманстраваў на Брэсцкім абласным свяце-конкурсе кавальства "Багрымаў перазвон", дзе і зроблены гэты здымак.

***Яўген САХУТА***



## Намаганні ТБМ імя Ф. Скарыны

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны распрацавала стратэгію сваёй дзейнасці па развіцці беларускай мовы ў XXI стагоддзі. У ёй прааналізаваны сённяшні заняпадны стан мовы ў нашай краіне, выпрацаваны прапановы, як і дзе пашырыць карыстанне беларускай мовай, якія можна выкарыстаць для гэтага магчымасці.

У стратэгіі шмат цікавага і неабходнага. Калі хто пажадае пазнаёміцца з ёю бліжэй, узяць сёе-тое на заметку, то раім звярнуцца да газеты "Наша слова" за 8 студзеня гэтага года.

### Люты

4 – **Баразна Лявон Цімафеевіч** (1929, Талач. р-н – 1972), мастак – 75 гадоў з дня нараджэння.

4 – **Ліс Арсень Сяргеевіч** (1934, Смаргон. р-н), фальклярыст, літаратуразнавец, краязнавец, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986 г.) – 70 гадоў з дня нараджэння.

6 – **Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч** (1914, Касцюк. р-н – 1978), народны паэт Беларусі, заслужаны работнік культуры Украіны, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968) – 90 гадоў з дня нараджэння.

8 – **Таўлай Валянцін Паўлавіч** (1914, Баранавічы – 1947), паэт, літаратуразнавец, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі – 90 гадоў з дня нараджэння.

8 – **Лыч Леанід Міхайлавіч** (1929, Уздз. р-н), вучоны-гісторык – 75 гадоў з дня нараджэння.

11 – **Узембла Люцыян** (1864–1942), гісторык, краязнавец, калекцыянер, адзін з ініцыятараў стварэння ў Вільні таварыства аматараў старажытнасцей і народазнаўства – 140 гадоў з дня нараджэння.

*Новыя помнікі*

## Усяслаў Чарадзей – крылаты воўк

Сцверджанне гэта замацавалася яшчэ ў "Слове аб палку Ігаравым": полацкі князь удзень – чалавек, уночы – воўк, сокал або тур, адным словам, стане тым, кім пажадае. Да такіх, як ён, пярэваратняў, у народзе звычайна былі непачцівыя адносіны: тыя пераўвасабленні выкарыстоўвалі людзям на шкоду. Але народная творчасць і названая паэма, прыпісваючы Усяславу чарадзейства, падкрэслівалі ягоныя не толькі хітрасць, вераломнасць, але і мудрасць, імклівасць, што служылі найперш свайму люду і на яго карысць, заможнасць і самастойнасць.

Мабыць, гэтым апошнім кіраваліся скульптар Ул. Піпін, гарадскія ўлады Оршы, калі сумесна ажыццявілі праект установкі ў горадзе, каля этнаграфічнага музея "Млын", помніка Усяславу Чарадзею ў выглядзе ваўка, але... крылатага. Па-першае, здаецца, нідзе ў свеце менавіта такога помніка няма, што адухаўляе і акрыляе міфічную страшную асобу ў дачыненні да нашага былога буйнога дзяржаўнага дзеяча, а па-другое, у аблічча гарадскіх вуліц, самога горада ўносіць пэўную навізну.

*Знаёмствы*

## "Славутыя імёны Бацькаўшчыны"

***20 студзеня гэтага года ў Міжнародным цэнтры інтэграцыйнай інфармацыі Грамадскага прэс-цэнтра Дома прэсы адбылася прэс-прэзентацыя другога тома зборніка "Славутыя імёны Бацькаўшчыны" для журналістаў сродкаў масавай інфармацыі.***

Старшыня ГА "Беларускі фонд культуры" Ул. Гілеп расказаў гісторыю стварэння і выдання гэтых кніг. Першы том серыі ўбачыў свет у 2000 годзе, быў вельмі хутка рэалізаваны і на сёння ўжо з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю. Створаная пры Беларускім фондзе культуры камісія "Славутыя імёны Бацькаўшчыны" працуе над аднайменнай праграмай пачынаючы з 1998 года пад кіраўніцтвам доктара гістарычных навук, загадчыка кафедры гісторыі і музеязнаўства Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры А. П. Грыцкевіча. З таго часу камісія назапасіла значную колькасць матэрыялаў пра дзяржаўных, палітычных, ваенных і грамадскіх дзеячаў XI – XIX стагоддзяў, якія нарадзіліся і жылі ў Беларусі, а таксама праявілі свой талент і здольнасці ў іншых краінах. Значная іх частка была мала вядома або зусім невядома на радзіме, у Беларусі.

Пры ўкладанні зборніка былі прыняты прынцыпы навуковасці, аб'ектыўнасці і гістарычнасці пры напісанні біяграфічных нарысаў. Выкарыстоўваліся бібліягрфічныя звесткі з розных крыніц і даследаванняў, кніг і матэрыялаў прэсы, а таксама архіўныя матэрыялы. Аўтарам і рэдакцыйнай калегіі давялося сутыкнуцца з пэўнымі цяжкасцямі, са стэрэатыпамі ў папулярных выданнях ранейшага і сучаснага перыяду. Ад гэтых стэрэатыпаў, часткова і ад міфаў, прыйшлося адмаўляцца.

У чарговым, другім томе "Славутых імёнаў Бацькаўшчыны" мы прэзентуем біяграмы 28 знакамітых нашых землякоў. Пра некаторых з гэтых асоб ужо напісаны артыкулы, выпушчаны кнігі. Аднак часцей за ўсё яны мелі характар папулярных нарысаў. Частка персанажаў раней увогуле разглядалася ў якасці вядомых дзеячаў суседніх краін. Выданне "Славутыя імёны Бацькаўшчыны" мае дачыненне да другога праекта Беларускага фонда культуры – "Вяртанне нацыянальных культурных каштоўнасцяў" як агульнадзяржаўнай праграмы пошукаў і вяртання на радзіму ўсіх нацыянальных скарбаў – духоўных і матэрыяльных.

У другім томе выдання знайшлі сваё заслужанае месца постаці такіх дзеячаў, як Міндоўг, Канстанцін Астрожскі, Юрый Алелькавіч, Ігнацій Пацей, Ян Дубовіч, Мікалай Ястржэмбскі, Казімір Чарноўскі, Напалеон Чарноцкі, Фёдар Стравінскі і іншыя.

Беларускі фонд культуры плануе выданне трэцяга тома "Славутых імёнаў Бацькаўшчыны", каб вярнуць беларускай гісторыі многія іншыя гістарычныя постаці, над чым працягвае працаваць адправедная камісія фонда.

Галоўны рэдактар выдання, доктар гістарычных навук А. Грыцкевіч расказаў пра прынцыпы стварэння гэтай серыі, у якой спалучаны і навуковасць, і белетрыстычнасць. Прыводзяцца цікавыя факты, падрабязнасці, што можа быць цікава пісьменнікам пры напісанні мастацкіх твораў. Пры складанні артыкулаў-эсэ не было намеру пісаць толькі пра самых высокіх асоб, хацелася расказаць пра малавядомых сёння дзеячаў, якія ў свой час зрабілі вялікую справу. Ёсць фінансава-эканамічныя цяжкасці, таму без дапамогі дзяржавы не абыйсціся. Аўтар аднаго з артыкулаў, кандыдат філалагічных навук Ул. Мархель запыніў сваю ўвагу на асвятленні ў кнігах літаратурнага жыцця Беларусі да XX стагоддзя, а кандыдат гістарычных навук А. Кіштымаў — на новым поглядзе пры напісанні артыкулаў-эсэ, дзе аўтары не прытрымліваліся ранейшых абавязковых катэгорый: партыя, клас, народ. У другой кнізе, апрача дзяржаўных дзеячаў, вучоных, пісьменнікаў, з'явіліся і героі-прадпрымальнікі, што вельмі важна для нашага часу. В. Гапоненка падкрэсліла, што ў другім томе гэтай серыі ёсць спроба вярнуць нам тых вядомых дзеячаў, вучоных, якія былі нашымі землякамі (С. Кавалеўская, З. Урублеўскі і інш.).

Аўтары другога тома "Славутыя імёны Бацькаўшчыны" адказалі на шматлікія пытанні прысутных.

Намеснік галоўнага рэдактара "Краязнаўчай газеты" Г. Далідовіч па даручэнні рэдкалегіі падвёў вынікі віктарыны на веданне нашай старажытнай гісторыі і культуры. Навучэнцу СШ № 49 г. Мінска А. Трусаву і супрацоўніцы Карэліцкага карязнаўчага музея С. Кошур, якія занялі першае месца, былі ўручаны прызы.

*У тэатры «Зьніч»*

## Не спектакль – музей...

**Монаспектакль "Віленскія мроі"** паводле ўспамінаў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай і вершаў Надзеі Артымовіч – своеасаблівая пастаноўка. Многія рэчы на сцэне – старасвецкія, з тых, што належалі Вітан-Дубейкаўскай. Дзеля пастаноўкі паводле інвентарнай кнігі ўзноўлены Беларускі музей старажытнасцяў у Вільні. Усё можна будзе пабачыць 17 лютага. Выканаўца – Галіна Дзягілева.

Юльяна, дачка віленскага купца-немца, распавядае пра падзеі пачатку XX стагоддзя, што мелі важнае значэнне для Беларусі, пра віленскіх беларускіх адраджэнцаў, пра сваё каханне. Твор "Мае ўспаміны", паводле якога зроблены спектакль спачатку патрапіў у Лондан, потым – у Амерыку, а напрыканцы 80-х вярнуўся ў Вільню. Пляменнік Івана Луцкевіча машынапіс перадаў мастацкаму кіраўніку тэатра "Зьніч", а Г. Дзягілева паклала тэкст у аснову спектакля.

20 лютага адбудзецца **музычна-паэтычная імпрэза "Паэт і лампада"** з удзелам паэткі Ларысы Паўлікавай і барда Алеся Камоцкага. Духоўнасць, маральнасць – тэма размовы з гледачамі.

У **монаспектаклі "Кроткая"** паводле аповесці Ф. Дастаеўскага, які пройдзе 23 лютага, герой сканцэнтроўваецца на развагах над уласным жыццём, ідзе да спасціжэння сябе. Сцэнаграфія Барыса Герлавана і музыка Алега Залётнева зрабілі спектакль падзеяй. Менавіта ён быў на фестывалях у Кіеве і Маскве. Выканаўца – заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шэлестаў.

Такія пастаноўкі тэатра "Зьніч" пройдуць у мінскім Чырвоным касцёле ў бліжэйшы час, пачатак іх а 19 гадзіне. Нешта ўдакладніць можна па тэлефонах 220-56-32 і 231-75-53.

***На здымку:*** сцэна са спектакля "Віленскія мроі".



**Дзякуй даўнім і новым сябрам нашай газеты! У студзені нас стала болей. То будзьма разам і надалей. Каб разам пашыраць нашую сябрыну, нагадваем, што падпісацца на "КГ" можна з любога месяца. Давайце не губляцца ў вялікім свеце сучаснай мітусні!**

Падпісныя індэксы:
індывідуальны – 63320, ведамасны – 633202.

*"... І дзякуй скажа родны край".*





## Ушанаванне землякоў

Сярод тых ураджэнцаў Магілёўшчыны, хто зрабіў значны ўклад у беларускую літаратуру і культуру, – пісьменнік Іван Чыгрынаў і кінарэжысёр Віктар Тураў. Іхнімі імёнамі ўжо названыя вуліцы ў Магілёве, а нядаўна абласныя ўлады вырашылі ўшанаваць і ўвекавечыць памяць пра іх мемарыяльнымі дошкамі.

*Бібліятэчныя справы*

## У казармах...

Не, ніякай інтрыгі-каверзы тут няма: у Лунінцы былі старыя, малапрыгодныя казармы, ці, як некалі казалі, жаўнеркі. Але ж будынак ёсць будынак, ды калі яго як след дагледзець. За справу ўзяліся будаўнікі ПМК-7, якія зрабілі рэканструкцыю казармы і падрыхтавалі яе пад бібліятэку. У ёй цяпер змогуць павышаць свае веды не толькі фізічна здаровыя людзі, але і інваліды (для іх абсталявалі пандус – нахіленую пляцоўку каля ўваходу, якая замяняе сабой лесвіцу).

*Выставы*

## Голас і музыка

Гэта маглі пабачыць, пачуць наведвальнікі Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, дзе была наладжана выстава "Успамінаючы мінулае". На яе трапілі рэчы даўніны з фондаў музея. Можна было пабачыць калекцыйныя ўзоры мастацкага ліцця з чорных і каляровых металаў і культавыя медныя прадметы стараабраднікаў, бронзавыя скульптурныя мініяцюры Заходняй Еўропы, слыннае чыгуннае ліццё расійскага Каслінскага завода, кітайскі медны посуд, аздобленыя перагародчатай эмаллю, знаёмай нам па вельмі падобным аздабленні крыжа Ефрасінні Полацкай.

Да выставы металічных рэчаў хораша дапасаваліся старажытныя іконы, гадзіннікі і даўнія ўзоры майстэрскай мастацкай вышыўкі, што ўсё разам яскрава падкрэсліла вялікія густ, здольнасці нашых продкаў, што і сёння нібы шчырая, сардэчная песня душы.

*Свае свята*

У вёсцы Хільчыцы Жыткавіцкага раёна жывуць гасцінныя і руплівыя людзі, якія ўмеюць не толькі працаваць, але і адпачываць. Можа, весялосць тая з таго, што іхні калгас стаў сялянскай гаспадаркай Міхаіла Рыгоравіча і Кацярыны Фёдараўны Шрубаў, дзе за добрую працу атрымліваюць прыстойныя грошы? Так ці не, але ж наладзілі вяскоўцы сабе свята вёскі. І стары, і малы выйшлі на вуліцу – спяваць, танцаваць ды музыку грацъ. Бо ж у будзень усе свае штукарствы і не пакажаш.

Завіталі да вяскоўцаў і музыкі з Мінска, артысты Алесь Свірскі, Барыс Гергалаў, Мікола Котаў. Спадабалася і добрае выступленне хору з Турава, якім кіруе Іван Шруб.

Прыемным дадаткам стала ўручэнне падарункаў лепшым сялянам. За ўменне і самаадданасць – неспадзяванка.

Карацей, можна зладзіць свята для сябе ды іншых, каб не гараваць, не наракаць на лёс. Каб добра завяршыць адзін год і падрыхтавацца да другога.

*Ул. інфарм.*



*У таварыстве «Этна»*

# Вандроўкі ў мінулае...

Больш за год студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры займаюцца арганізацыяй вандровак па гістарычных мясцінах Беларусі. За гэты час удзельнікі наведалі і вывучылі шматлікія замкі, касцёлы, цэрквы, сядзібы, гарадзішчы і г.д.

Маршрутаў існуе даволі шмат. Прычым усе помнікі – унікальныя. Напрыклад, такі маршрут, як "Замкі Беларусі": Валожын (палац Тышкевічаў, касцёл) – Іўе (мячэць, касцёл) – Ліда (замак XIV ст., касцёл) – Любча (замак XVI ст.) – Навагрудак (замак XIV ст., барочны касцёл, Барысаглебская царква, музей) – Мір (замак XVI ст.). Унікальным па помніках і мясцінах з'яўляецца маршрут "Браслаўскі край": Глыбокае (два барочных касцёлы) – Мосар (касцёл XVI ст.) – Слабодка (касцёл) – Браслаў (касцёл, музей, гарадзішча) – Опса (касцёл) – Відзы (адзін з самых вялікіх касцёлаў).

Цікавасць выклікае і наступны маршрут: Сынкавічы (абарончая царква XVI ст.) – Слонім (касцёлы, музей, старая сінагога) – Жыровічы (манастыр XVII ст.) – Ружаны (палац XVI ст.) – Косава (палац).

Існуе даволі вялікі спіс цікавых месцаў, большасць з якіх, на жаль, малавядома. Гэта Свянцянскі край, Астравецкі раён... Праўду казаў паэт: "Багаты свет цудоўнымі краямі..."

Трэба адзначыць, што да вандровак па гістарычных мясцінах Беларусі далучаюцца людзі рознага ўзросту і занняткаў. Адбываецца паступовае азнаямленне са сваёй спадчынай. Усё гэта ўплывае на самасвядомасць нашага грамадства. Людзі далучаюцца да роднай мовы і культуры.

Вось што кажуць самі ўдзельнікі краязнаўчых вандровак...

**Паліна Данько (студэнтка БДУ культуры)**: "Мне апошнім часам захацелася больш пазнаць Беларусь, паглядзець яе помнікі. Я не ведала, што ў нас такая багатая культура. Усё гэта для мяне надзвычай цікава. Падабаецца разнастайнасць маршрутаў. Вельмі хацелася зрабіць намаганні для развіцця беларускага турызму."

**Яўген Скварцоў (інжынер):** "Я адкрыў для сябе Беларусь, яе помнікі, прыроду, гісторыю."

**Наталля Качаноўская (выкладчык БНТУ):** "Я спасцігаю шмат новага па гісторыі, сапраўднай гісторыі Беларусі. Трэба прыкласці ўсе намаганні дзеля захавання нашай спадчыны."

Такім чынам, можна спадзявацца, што ўсё большая колькасць людзей будзе далучацца да вывучэння і спасціжэння сваёй краіны. Таму запрашаем усіх у новую вандроўку...

***Павел КАРАЛЁЎ, старшыня гісторыка-краязнаўчага таварыства «Этна»***

P.S. Скантактавацца можна па тэлефонах: 8-029-7762435, 8-029-6225720.

***Радзім ГАРЭЦКІ***

## Мінеральныя рэсурсы Беларусі

***з кнігі "Вечна жыве Беларусь!"***

***(Працяг. Пачатак у № 1– 4.)***

У межах Жыткавіцкага горста (падняцця) разведана *рэдкаметальнае* радовішча – Дыябазавае, якое таксама з'яўляецца комплексным. Яно прыгодна для вытворчасці рэдкіх металаў, рэдкіх зямель цэрыевай групы, а таксама мінеральных валокан, шчэбня і інш. Радовішча знаходзіцца ў спрыяльных горна-геалагічных умовах і можа быць ў бліжэйшыя гады асвоена. Здабыча рэдкіх зямель будзе мець вялікае значэнне для эканомікі краіны і можа стаць крыніцай атрымання валюты, бо гэтая сыравіна вельмі патрэбна ў многіх напрамках вытворчасці: радыётэхнічнай, самалётабудаўнічай, касмічнай і інш.

### ШТО МОЖНА ЧАКАЦЬ У БУДУЧЫМ?

З крышталічнымі пародамі фундамента звязаны перспектывы пошукаў радовішчаў самых разнастайных карысных выкапняў: *чорных і легіруючых* (жалеза, ванадый, тытан, кобальт, нікель, малібдэн, вальфрам), *каляровых* (медзь, цынк, свінец, олава), *высакародных* (золата і серабро) *металаў; рэдкіх і рэдказямельных элементаў*. Багатыя рудапраяўленні ўсіх гэтых выкапняў геолагі ўжо знайшлі ў многіх мясцінах Беларусі. Вядомы таксама праяўленні многіх неметалічных карысных выкапняў: *графіту, мармуру, граната*. Плошча, на якой можна шукаць такія мінеральныя рэсурсы ў пародах фундамента на адносна невялікіх глыбінях (менш за 500 м), дасягае амаль 80 тыс. км$^2$ (тэрыторыя Беларускай антэклізы, Мікашэвіцкі і Жыткавіцкі горсты, край Украінскага шчыта – раён Глушкавіч і інш.).

З эпохамі вулканізму (венд – 650 млн. гадоў таму і позні дэвон – 360 млн. гадоў таму) звязаны своеасаблівыя тэктанічныя элементы, так званыя трубкі выбуху – канцэнтрычныя структуры дыяметрам ад некалькіх соцень метраў да першага дзесятка кіламетраў і глыбінёй да 20 – 60 км (да ніжняй зямной кары і нават верхняй мантыі). Да іх адносяцца розныя карысныя выкапні і найбольш важныя з іх – *алмазы*. Вендскі вулканізм распаўсюджаны ў Брэсцкай упадзіне і Палескай седлавіне (Брэсцкая вобл.), а познедэвонскі – самы ўсход Прыпяцкага прагіна, Брагінска-Лоеўская і Жлобінская седлавіны (Гомельская вобл.). Ужо знойдзена 30 такіх трубак выбуху. Такога ж тыпу структуры можна шукаць на поўначы Віцебскай вобласці, у раёне Полацкай зоны разломаў, якая праходзіць у субшыротным напрамку амаль праз Полацк.

З асадкавым чахлом, апрача пошуку новых радовішчаў ужо пералічаных раней карысных выкапняў, звязаны перспектывы знаходжання рассыпных радовішчаў розных металаў (цыркон, ільменіт, тытан, рутыл, касітэрыт, гранат, золата, рэдкія і рэдказямельныя элементы і інш.). На поўдні Беларусі магчымы пошукі *меднай руды, ртуці*.

Такім чынам, геалагічныя пошукі могуць прывесці да пашырэння запасаў ужо раней вядомых відаў мінеральных рэсурсаў і адкрыцця новых, нават такіх, якіх зараз мы яшчэ і не чакаем.

### ГЕАЛОГІЯ НЕАБХОДНАЯ ШКОЛЕ

Кожны, хто скончыў школу, многае можа ўспомніць пра космас і зоркі, жывёлаў і расліны, рэкі і ўзвышшы, бо калісьці вывучаў астраномію, заалогію, батаніку, геаграфію. А спытайце, чым адрозніваецца мінерал ад горнай пароды, што было на месцы роднага краю сто мільёнаў гадоў назад ці што яшчэ можна знайсці ў нетрах Беларусі, звычайна пацісне плячыма, бо не ведае – геалогію ў школе амаль не вывучаў. Справа дайшла да таго, што ў газетах адначасова з'яўляюцца артыкулы, адны з якіх запэўніваюць – быццам бы мы бедна жывём таму, што ў нас няма мінеральнай сыравіны, а другія – што мы казачна багатыя. Геалогію не ведаюць ні вучні, ні журналісты, ні міністры.

Геалогія – адзін з падмуркаў сучаснага навуковага светапогляду. Яна, як ні адна з іншых навук, раскрывае ролю і месца чалавека ў прыродзе, высвятляе ход самых розных працэсаў на Зямлі, тлумачыць крохкасць нашага наваколля. Без гэтай навукі нельга вывучыць свой край, яго адметнасць і прыгажосць.

У большасці краін свету курс геалогіі праходзяць у школе, асабліва ў старэйшых класах. Там даўно створаны багатыя геалагічныя музеі, у якіх можна ўбачыць узоры горных парод і мінералаў са ўсяго свету, акамянелыя рэшткі насельнікаў нашай планеты з мінулых геалагічных эпох, маляўнічыя стэнды і макеты геалагічных падзей і працэсаў. Мне неяк давялося пабываць у Геалагічным музеі Лондана, якому ўжо больш за 150 гадоў. Гэта – адзін з лепшых геалагічных музеяў свету, змешчаны ў вялікім прыгожым палацы. Музей пакідае вялікае ўражанне. Але ў мяне яшчэ большае здзіўленне выклікалі дзяўчынкі і хлопчыкі, якія з вялікай увагай гадзінамі стаялі каля стэндаў і калекцый. У кожнага з іх сшытачкі, куды заносіцца ўбачанае. Атрыманыя веды застаюцца надоўга.

Да вайны геалогію выкладалі ў школе і ў нас. Існаваў неблагі для таго часу падручнік М. Пацёмкіна і В. Малінка "Мінералогія і геалогія" для 10 класа. Але пазней, калі "шукалі гадзіны" для ідэалагічных дысцыплінаў, ад навукі аб Зямлі адмовіліся.

Цяпер у Беларусі маецца вялікая неабходнасць адрадзіць нацыянальную культуру. У гэтай справе найважнейшае месца належыць адукацыі. У распрацоўцы новай канцэпцыі адукацыі прыярытэт патрэбна аддаць вывучэнню напрамкаў, якія маюць жыццёва важнае значэнне для Беларусі, і тут не ў апошнюю чаргу важныя прыродазнаўчыя навукі.

Сярод дысцыплін прыродазнаўчага цыклу геалогія павінна заняць важнае месца. Прыйшла пара ўнесці ў праграму старэйшых класаў сярэдняй школы курс "Геалогія". Тыя кароткія звесткі па геалогіі, якія выкладаюцца ў прыродазнаўстве і геаграфіі, трэба захаваць і разглядаць у якасці папярэдніх звестак да курса геалогіі.

У падручнік па геалогіі павінны трапіць агульныя звесткі пра гэту навуку і яе практычнае значэнне, пра Зямлю як планету, геалагічную дзейнасць ветра, рэк, падземных вод, мора, лёду і яго талых вод, азёр, балот, вулканаў, розных геалагічных працэсаў.

Без геалагічных ведаў немагчыма вырашыць такія важнейшыя праблемы, як нараджэнне планеты Зямля, будова і развіццё іншых планет і ўсёй іх сістэмы.

***(Працяг будзе.)***

*Школьныя навіны*

## Клопат пра літоўскую мову

Яе з гэтага навучальнага года пачалі вывучаць на Астравеччыне вучні, якія ў сваіх сем'ях прывучаныя да роднай мовы і культуры. Факультатыў па вывучэнні мовы наладзілі сябры літоўскай суполкі з вёскі Рымдзюны і кіраўніцтва цэнтра пазашкольнай працы Астравецкага раённага аддзела адукацыі.

Трэба зазначыць, што не толькі літоўцы на нашай зямлі клапоцяцца пра сваю родную мову і культуру, на Гродзеншчыне за апошні час пачалі працаваць дзесяткі такіх факультатываў, дзе навучаюцца прадстаўнікі польскай, татарскай, яўрэйскай і іншых зарэгістраваных у вобласці суполак.

...А людзі плачуць, помнячы вайну.

*Фота Міхася ХАМЦА*

*Выстава*

## Памяць пра тых, хто здабываў Перамогу

Такая выстава летась увосень дзейнічала ў галерэі мастацтваў гомельскага аддзялення Саюза мастакоў Беларусі, прысвечаная 60-годдзю вызвалення Гомеля ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На выставу прапанавалі свае 30 карцін 12 мастакоў, якія нарадзіліся ў горадзе і прысвяцілі свае творы ваеннай, лепш сказаць антываеннай, тэматыцы. Апошняе адлюстравана і ў тым, што аўтары выставілі карціны і з адлюстраваннем мірнай тэматыкі – пейзажы Палесся, партрэты вядомых людзей, побытавыя замалёўкі. На адкрыццё выставы былі запрошаныя ветэраны вайны і ўдзельнікі баёў за Гомель.

## Дзе тужыла княжна...

***Легенда пра Суражскі замак***

Замак... Гэта месца трохвугольным клінам уразаецца ў Заходнюю Дзвіну.

Усё, пра што расказвае легенда, было ў тыя далёкія часіны, калі Сураж належаў Вялікаму княству Літоўскаму.

Адзін з князёў, што правіў на гэтых землях, вельмі любіў паляваць у тутэйшых лясах. Яму падабалася гэта месца, шчодра адоранае прыродай, рака з яе чыстымі і плаўнымі водамі, берагі, упрыгожаныя вербамі і чаромхаю ў квецені, непраходныя лясы, а людзі вызначаліся дабрынёй і працавітасцю.

Але больш за ўсё яму падабаліся тутэйшыя дзяўчаты – прыгожыя, вясёлыя, зграбныя, звонкія пявунні. У сваіх светлых, расшытых вопратках былі яны падобныя да маладых, стромкіх бярозак, якія раслі вакол і радавалі ўсіх сваёю чысцінёю.

Пра ўсё гэта князь расказваў сваёй дачцэ, а потым узяў яе з сабой паглядзець гэтыя мясціны. Княжацкай дачцэ спадабалася не толькі наваколле, але і добры хлопец, зграбны ды прыгожы. Пакахала княжна тутэйшага рыбака ўсёй душой, усім сваім дзявочым сэрцам. Ніхто і нічым не мог згасіць гэтае яркае і гарачае каханне.

І вырашыла княжна застацца жыць у гэтым краі. Калі князь даведаўся аб гэтым, вельмі разлаваўся на непакорную дачку і загадаў узвесці на зліцці двух рэк вялікі замак ды пасадзіць у яго непакорлівую прыгажуню.

Ішлі гады. Княжна не змагла адмовіцца ад свайго каханна, ліла горкія слёзы, усё глядзела на рэкі, усё чакала, ці з'явіцца лодка з добрым хлопцам. Ад яе горкіх слёз пачаў рушыцца высокі бераг, замак пачаў спаўзаць у рэчку, а потым – рухнуў разам са святліцай.

У кнізе Уладзіміра Арлова "Таямніцы полацкай зямлі" пра замак напісана: "Вежа зроблена з 1 200 бярвенняў. Вышыня – ад чатырох з паловай да сямі метраў. Каб ворагі не змаглі адразу падпаліць будынак, на вышыні чалавечага росту сцены абкладвалі дзёрнам. Удаўжыню вежа была да 12 метраў, а замкавы вал – да 1 400. У замку стаяў княжацкі дом, пры ім 6 дамоў на падклецях. Адзін дом са святліцай знаходзіўся прама ў замку. На тэрыторыі замка таксама былі стайня, пякарня, кавальня, лазня і піваварня. У замку захоўваліся зброя і запасы зерня".

*(Паводле газеты "Мир – в XXI век!")*

*Школьнае краязнаўства*

## "Божа, беражы нас ад такога дня..."

Заданне было сфармулявана так: "Сабраць успаміны пра вайну".

Спачатку я нават абурылася: навошта ўспамінаць тое, што было больш як паўстагоддзя таму? Але рабіць няма чаго, іду да бабулі. Перад яе дзвярыма нерашуча спыняюся. Праз шкло бачу, што сядзіць яна каля печы, у руках – спіцы, мабыць, вязала мне цёплыя шкарпэткі, а цяпер заплюшчыла вочы і, напэўна, заснула.

Не хачу турбаваць яе, разварочваюся і ціхенька адыходжу. Але ласкавы голас спыняе:

– Ідзі сюды, маё дзіцятка. Чаго ты таўчэшся там?

– Я думала, што ты заснула, бабуля.

Яна ўсміхнулася. Ад усмешкі твар пранізалі глыбокія маршчынкі.

– Не, гэта я проста прыгрэлася каля печы і задумалася.

– Аб чым жа?

– Ды так, дзіцятка, успамінала мінулыя гады...

– А ведаеш, бабуля, мне далі заданне запісаць успаміны пра вайну.

Сказаўшы апошнія слова, я ўжо пашкадавала аб тым, што пачала гэтую размову. Па твары бабулі прабег цень смутку, вочы павільготнелі. Здавалася, бабуля зноў апынулася там, у тым пекле. І вінаватая ў гэтым я.

– Прабач мне, бабуля. Глупства ўсё гэта.

Я хацела ўжо пайсці, але мяне спыніў ціхі, нейкі дужа спакойны, голас бабулі.

– Пачакай. Кажаш, сабраць успаміны? Няхай будзе так. Але беражы цябе Божа, унучачка, ад такога гора...

У той дзень свяціла сонейка, звонка спявалі птушкі, смяяліся на вуліцы дзеці і раптам... Вайна! Адно гэтае слова перайначыла ўвесь лад жыцця. Не верылася, не даходзіла, што прыйшло нешта не проста страшнае, а жудаснае, бязлітаснае.

Мне было тады дванаццаць гадоў. Малое дзіця.

Але ішоў час. Мужчынаў з нашай вёскі забралі на фронт. Тыя, хто застаўся, з прыходам немцаў пайшлі ў партызаны. Цяжка было жыць, але адзін аднаму дапамагалі. І вось раніца на пачатку 1943 года. Я не забуду ніколі ў жыцці тую зімовую раніцу. У вёску прыйшлі карнікі.

Мы тады жылі ў Гарадзішчы. Вёска пасярод лесу, ёсць дзе схавацца. Але ніхто з яе жыхароў не ведаў на золкім світанку, што за жудасны дзень іх чакае.

Праз сон пачуўся нясцерпны брэх сабак. Яны папярэджвалі, што паблізу знаходзяцца чужыя. Маці ўсхапілася з ложка, падбегла да вакна. Ёй нічога не трэба было казаць, усё было зразумела без словаў. Твар яе выцягнуўся, збялеў. З нейкім адчаем паглядзела на нас. Майму брату было 15 гадоў, але ён спакойна, як дарослы, прайшоў да стала, узяў нож і стаў каля дзвярэй. Маці кінулася да яго, выхапіла нож і страшэнным шэптам загадала:

– Не смей! Хочаш, каб я засталася без адзінай надзеі, без сваіх дзяцей! Можа, пройдуць міма, не зачэпяць.

Як быццам у процівагу яе словам, прагрымелі стрэлы. Жаласліва заскуголіў сабака, і ўсё сціхла.

Мне не было страшна. Гэта не значыць, што я не баялася. Проста страх быў настолькі вялікі, што мяне агарнуў спакой, які звычайна бывае пасля вялікага нервовага ўзрушэння.

Дзверы ў сенцах расчыніліся. Спачатку я пабачыла аўтамат, а потым увайшоў немец. Маці здрыганулася. Прасачыўшы за яе позіркам, я таксама страсянулася ўсім целам. Гэта былі не проста звычайныя падраздзяленні немцаў, якія ішлі на перадавую, гэта былі карнікі. Яны прыйшлі, каб рабаваць, забіваць, вынішчаць партызанскія сем'і.

– На выхад! Жыва!

Брат узяў мяне за руку. Маці прыгарнула нас да грудзей. Немец з аўтаматам выпіхнуў нас на вуліцу. Там ужо былі амаль усе жыхары вёскі, у асноўным – старыя, малыя і жанчыны. Малыя плакалі, больш сталыя глядзелі з-пад ілба на карнікаў. Сярод карнікаў вылучаўся іх камандзір. Тоўсты афіцэр з брыдкімі свінымі вочкамі і масляністым тварам, які блішчэў, як намазаны блін. Ён нешта загадаў, і людзей пачалі заганяць у хлеў. Я заплюшчыла вочы, прадчуваючы нядобрае. Але нас – маму, брата і мяне – не чапалі. Нехта данёс немцам, хто з жыхароў пайшоў у партызаны і дзе іх сем'і. Мой жа бацька быў на фронце. Але чаму ўсё ж нас не загналі ў той хлеў? Гэтае пытане застаецца без адказу і па сённяшні дзень. Магчыма, Бог пашкадаваў маю маці. Але чаму ж – не астатніх?

– Яна пойдзе з намі.

Маці кінулася да мяне, але дула аўтамата ўпёрлася ёй у грудзі.

– Пайшла, пайшла прэч, ведзьма!

Мяне прывялі ў хату, паказалі на перадушаных курэй і загадалі іх абскубсці. Рукі не слухаліся, слёзы засцілі вочы, але трэба было працаваць. За сцяной карнікі вялі допыт: да мяне даляталі крыкі, стогны, удары. Часам міма мяне праносілі акрываўленых людзей.

– Ты чаму гэта нічога не робіш, га?

Як з-пад зямлі вырас за спіною карнік. Ён схапіў мяне за каўнер і выцягнуў на ганак. На нейкую долю секунды здалося, што заб'е. Але ён толькі пхнуў мяне ботам у снег. Падбегла маці. Даведаўшыся, што я не справілася з работай, сказала:

– Вось цяпер яны могуць нас у любы момант забіць.

Брат нічога не сказаў, а толькі прыціснуў мяне да сваіх грудзей.

– Пайшлі. Будзеш абіраць бульбу.

Той жа самы карнік зноў пацягнуў мяне ў хату.

– Абярэш усю – будзеш жыць. Калі ж не...

Ён падняў аўтамат, даў кароткую чаргу над маёй галавой і засмяяўся.

Я старалася хутчэй абабраць бульбу, але яе ніяк не меншала. Мне здавалася, станавілася ўсё болей і болей. За спіной сабраліся немцы. Яны смяяліся, паказвалі на мяне пальцамі, біліся аб заклад. Ставілі на тое, што я не абяру бульбу. Пальцы мае былі ў крыві, вада – чырвоная, але я працягвала абіраць лупіну за лупінай з кожнай наступнай бульбіны. Я разумела, што ў той момант у маіх руках было не толькі маё жыццё, але і жыцці маці і брата, якія чакалі мяне на двары.

Аўтаматычным рухам я працягнула руку за наступнай бульбінай, але намацала толькі дно вялікай дзежы. Не верачы сваім вачам, я зазірнула туды і звалілася без сілаў на падлогу. Мяне на нейкі час пакінулі ў спакоі. Але неўзабаве расштурхалі і загадалі падаваць на стол. Немцы, змарыўшыся за дзень біць, расстрэльваць, адпачывалі. Елі. Пілі. Адзін з іх звярнуў увагу на мяне і загадаў з ім выпіць. Мабыць, Бог мяне выратаваў. Я вырвалася з яго абдымкаў і кінулася вон з хаты. Пагоні не было.

Назаўтра карнікі адправіліся далей, пакідаючы пасля сябе гора і смерць, вывозячы на санях увесь невялікі спажытак людзей. Забралі і брата ў абоз. Маці не галасіла, баялася, што і мяне могуць забраць. Яна стаяла моўчкі, прыціскаючы рукі да сэрца, а па твары беглі ручайкі слёз.

Прайшла зіма, увабралася ў сілу вясна. Настаў май месяц. Мы ўжо не верылі, што брат вернецца. Але аднойчы пачуўся стук у акно. Я падбегла і ўбачыла, што праз шыбіну на мяне з вуліцы глядзіць брат. Схуднелы, счарнелы, але ж жывы. Калі ён адпачыў крыху, то расказаў, што быў у турме ў Магілёве, адтуль удалося ўцячы. Уцёк перад самым расстрэлам. Выйшаў жывым з пекла...

...Многа яшчэ было страшнага... Вайна ёсць вайна. Але той зімовы дзень сорак трэцяга я ніколі не забуду.

Бабуля скончыла свой расповед і задумалася. Потым ласкава паглядзела на мяне, прыгладзіла мае непаслухмяныя валасы і сказала:

– Што ж, унучачка, жыць трэба далей. Але і помніць таксама трэба. Помніць пра смерць, думаць пра жыццё.

Я пасядзела з бабуляй яшчэ, паразмаўляла. Потым прыйшла мая малодшая сястра і размова пайшла ў іншым накірунку.

І вось цяпер запісваю ўспаміны маёй бабулі Тамары Рыгораўны Седуновай. Дзеля чаго? Адкажу. Каб не забыць, каб помніць, каб праз усё жыццё пранесці падзяку тым, хто вынес з пекла вайны гэты свет, гэта сонейка, гэтае шчасце. Шчасце сённяшняга дня, шчасце нашага дзяцінства. Пакуль будуць помніць людзі жахі вайны, датуль будуць берагчы і шанаваць гэты мір. Помніце, людзі, аб гэтым!

***Таня СЕДУНОВА, вучаніца Дварышчанскай школы-сада, Расонскі раён***

# Традыцыйная культура

## як фактар захавання нацыянальнай самабытнасці беларусаў

ТАК СКЛАЛАСЯ не па волі беларускага народа, што ён на працягу некалькіх стагоддзяў, спачатку ў складзе Рэчы Паспалітай, затым – Расійскай імперыі, не меў рэальнай магчымасці нармальна развіваць тыя пласты культуры, дзе патрэбны адмысловыя тэарэтычныя веды, высокі прафесіяналізм. Многія даследчыкі з захапленнем пішуць, што на нашай зямлі ўжо ў XVIII ст. бурапеніла тэатральна-музычнае жыццё, што да нас на гастролі з розных еўрапейскіх краін прыязджалі вядомыя артысты. І сапраўды, такое было: больш за два дзесяткі школьных тэатраў у езуіцкіх калегіумах, два з паловаю дзесяткі оперна-балетных тэатраў, прэм'ера ў 1784 г. у Нясвіжы оперы кампазітара нямецкага паходжання Яна Голанда «Агатка, ці Прыезд пана», прэм'ера ў 1790 – 1791 гг. у Забельскай дамініканскай школе-калегіуме (Полаччына) оперы Рафаэля Вардоцкага «Апалон – заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас». Прыклады падобнага роду можна доўжыць, але ў тагачасным тэатральна-мастацкім жыцці нялёгка адшукаць такое, што сведчыла б пра яго беларускасць: родная беларуская мова, мясцовыя сюжэты драматычных твораў і г. д. Яна практычна не гучала на сцэнах тэатраў, а калі і гучала, дык больш з вуснаў якога-небудзь аднаго-двух вясковых персанажаў. Аўтары драматычных твораў і лібрэта опер укладвалі ў вусны такіх персанажаў вельмі неразвітую, жаргонную вясковую мову, пачуўшы якую, наўрад ці ў каго-небудзь магло ўзнікнуць шкадаванне, што яна не выкарыстоўваецца ў тэатральнай практыцы. Самымі паважанымі тут былі польская, лацінская ці яшчэ якая-небудзь еўрапейская мовы. Яны служылі толькі размыванню этнакультурнай самабытнасці беларускага народа, паланізавалі яго найбольш адукаваныя, інтэграваныя ў прафесійнае культурнае жыццё колы людзей. Не размываліся толькі спрадвечныя духоўныя традыцыі жыхароў вёскі, бо тыя не мелі магчымасці далучыцца да занесеных у іх край культурных здабыткаў высокага прафесійнага кшталту. Нездарма вядомы тэарэтык беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння XX ст. Язэп Лёсік пісаў, што за час знаходжання ў складзе Рэчы Паспалітай «усе вышэйшыя станы і інтэлігенцыя нашага краю былі спаланізаваны (апалячаны). Застаўся адзін цёмны, забіты народ».

Можа, залішне катэгарычна сказана Я. Лёсікам «цёмны, забіты народ», бо ў яго было і шмат чаго светлага, высакароднага ў жыцці. Ён любіў і паважаў традыцыі і звычкі сваіх старэйшых пакаленняў, усляпую не прымаў чужых культурных каштоўнасцяў, як гэта часта магло назірацца сярод сацыяльна зарыентаваных на іх заможных колаў беларускага грамадства: не прымеш пальшчызны – не будзеш належаць да шляхты.

А ЗАСТАЎСЯ за Рэччу Паспалітай у жывых, кажучы словамі Я. Лёсіка, цёмны, забіты беларускі народ дзякуючы таму, што ён не выракся сваёй прыроднай традыцыйнай культуры. Больш таго, нават істотна развіў, узбагаціў у параўнанні з той, якая ў яго была на пачатку ўтварэння Рэчы Паспалітай. Тагачаснымі здабыткамі фальклору яшчэ і сёння працягвае сілкавацца, ганарыцца беларуская традыцыйная культура.

Пра шчырую любоў простага народу да роднай духоўнай спадчыны з вялікай цеплынёй узгадвалі ў XIX ст. беларускія народнікі: «Просты беларускі народ, задушаны прыгонным бытам, не мог успрыняць польскай культуры, і як ні стараліся езуіты ўкараніць усюды ў Заходняй Расіі сваю лацінскую аднабаковую культуру, – гэта ім удавалася толькі ў дачыненні да вышэйшага класа, а да ніжэйшага нічога не прышчаплялася... Беларускі народ і яго найлепшыя сілы аказалі моцнае супраціўленне езуітызму, энергічна адстойваючы паданні і вераванні пры дапамозе брацтваў – гэтых выдатных асацыяцый, якія здабылі такую шырокую вядомасць і ўдзячную славу ў народзе. Але, нягледзячы на некаторыя рэлігійныя змяненні (пасля падпісання ў 1596 г. у Бярэсці царкоўнай уніі. – **Л. Л.**), просты беларускі народ застаўся ўсё такім жа, якім быў у пачатку свайго гістарычнага жыцця; у ім захаваліся ўсё тыя ж паданні, тыя ж звычаі, тыя ж песні і казкі, якія спрадвеку склаліся ў ім і пераходзілі з роду у род. Выносячы на сваіх плячах увесь цяжар паншчыны і прыгоннага быту, беларускі народ застаўся ўсё тым жа, нягледзячы ні на якія перамены, што адбываліся ў асяроддзі вышэйшага класа; ён толькі яшчэ больш скурчыўся, увайшоў у сябе і застаўся амаль пры ўсім сваім, што ў яго выпрацавалася папярэднім жыццём»[1].

***Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар***

P. S. Артыкул напісаны на аснове выступлення за круглым сталом «Праблемы традыцыйнай культуры» (май 2002 г.).

[1] Публицистика белорусских народников. Нелегальные издания белорусских народников (1881–1884). Мн., 1983. С. 26.

***(Працяг будзе.)***

*Наша гісторыя*

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

# Слова пра БССР

*Гісторыка-літаратурнае эсэ[1]*

*У свой час, аўтарам ужо некалькіх кніг прозы, я задумаўся: а што, уласна, гэта такое – Беларусь? Тады, у 1970-я, пачала спець задума напісаць ажно раман «Кліч роднага звона» пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага ў XIII стагоддзі. Але пасцерагаўся. Узяўся за гэта пазней, калі натхніў незабыўны Мікола Ермаловіч – творам «Старажытная Беларусь» і асабістымі парадамі.*

*У 1980-м пачаў сродкамі прозы асэнсоўваць утварэнне беларускай дзяржаўнасці ў 1917–1919 гадах. І ўразіўся, нават агаломшыўся: многіх дакументаў ці няма, ці да іх, нават прысвечаных утварэнню БССР, не дапускаюць, а ў шматлікіх грудах «гістарычных прац» – суцэльная хлусня, падман, больш-менш праўдзівых кніг (з агаворкамі) можна было пералічыць на пальцах адной рукі. Дабіраўся да матэрыялаў рознымі хітрыкамі; сёе-тое праз пасланцоў давала пачытаць Зоська Верас; сёе-тое прывезла з ЗША паэтэса-сяброўка, уклаўшы патрэбныя паперы ў сярэдзіну таміны «Гісторыя КПСС» (на здзіўленне савецкага памежніка яна адказала: «Прапагандавала родную партыю». – «Молодец!» – ашчасліўіўся той); усе тры раманы «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя», «Свой дом» апекаваў асцярожны, але найбольш дасведчаны ў справе Мікола Станкевіч, падказваючы, дзе і якія можна ўжыць літаратурныя прыёмы (змены прозвішчаў, партрэтаў герояў, асабліва тых, хто ўтвараў БССР, «разбаўленне» некаторых «цяжкіх» сцэн апісаннем прыроды ці кахання і г.д.). Трылогія вылучалася на Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь, але для яе не хапіла пару галасоў пры тайным галасаванні. Алаўрэачаныя пазней «Заходнікі» я напісаў літаральна на адным дыханні, а вось той трылогіі аддаў 15 маладых гадоў!..*

*Зразумела, пра ўтварэнне БНР і БССР трэба празаікам пісаць яшчэ і глыбей, мой вопыт няхай будзе ў падмогу.*

*... Дзіўная наша Беларусь і яе ўлада, гісторыкі, увогуле інтэлігенты! Летась было 750 гадоў, як у нас адбылася каранацыя нашага першага караля, але пра гэта напаміналa толькі купка люду! Было 85 гадоў утварэння БНР, але пра гэта гаварылі яшчэ менш! Сёлета – 85 гадоў утварэння БССР, але зноў жа амаль ні слова! А гэта ўсё ж рабілі лепшыя сыны нашага народа і за святую справу заплацілі сваімі жыццямі! Дзеля нас! Дзеля нашых дзяцей і ўнукаў!*

*У 2000–2001 гадах напісаў гісторыка-літаратурнае эсэ "БНР, БССР", дзе на аснове новых дакументаў, сапраўднасці імён тых дзеячаў выказаў свой погляд на падзеі таго часу. Загадчык аддзела культуры, навукі і грамадскага жыцця А. Федарэнка і галоўны рэдактар часопіса «Полымя» С. Законнікаў ухвалілі твор, аддалі ў набор, але ў выніку перамен кіраўніцтва часопісамі прыйшлося яго мне забраць... Эсэ зацікавіўся прыватны выдавец В. Хурсік.*

*Прапаноўваю ўвазе чытача трэцюю, заключную частку нарыса.*

***Аўтар***

Яшчэ да нядаўняга часу вучні ў школах, студэнты ў ВНУ завучвалі: БССР утварылася першага студзеня 1919 года ў выніку «мудрай ленінскай нацыянальнай палітыкі» і адпаведна «з таго часу бярэ пачатак беларуская дзяржаўнасць». Вось так, узнікла на голым месцы – і ўсё! Шмат хто гэта прымае за ісціну і цяпер, не ведаючы ці не хочучы наўмысна прызнаваць: БССР – працяг, новы этап нашага адзяржаўлення.

Беларускія дзеячы ў Мінску ў 1918-м ва ўмовах нямецкай акупацыі, пазбавіўшыся ілюзій наконт ажыццяўлення на справе бальшавіцкай «Декларации» праў народаў, пайшлі на рызыку ўтварэння БНР пад нямецкім прыкрыццём. А што было рабіць сотням тысяч беларусаў, тым, хто бежанцам, а хто ў салдацкай форме апынуліся ў Расіі, хто ступіў ужо на савецкую платформу і намагаўся з Саветамі ўвасобіць сваю Бацькаўшчыну ў дзяржаву? Найперш трэба было дзейнічаць. І дзейнічалі. Ды за беларускімі дзеячамі як у Мінску, так і ў Петраградзе і Маскве быў не толькі пільны «дозор», але і прыцэл са Смаленска, дзе размясціліся мяснікоўцы, вялі паўкругавы абстрэл, не выпускаючы лёс беларускага краю са сваіх рук.

Ленін, савецкі ўрад добра разумелі, што не мяснікоўцам прадстаўляць Беларусь, але ў гэтай сітуацыі абралі двайную тактыку: з аднаго боку, пры сабе, пры камісарыяце па справах нацыянальнасцяў РСФСР пад кіраўніцтвам І. Сталіна ўтварылі аддзел – Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацкам), які пачаў займацца агітацыйна-палітычнай, культурна-асветнай, выдавецкай работай, а таксама справамі бежанцаў, супрацоўнічаў з беларускімі секцыямі РКП(б), а з другога боку, зусім не замінaлі грызці беларускую справу, як у Мінску, так і ў Расіі, мяснікоўцам.

Недзе па май 1918-га, калі камісарам Белнацкама быў А. Чарвякоў, у асноўным вялася арганізацыйная праца – улік беларускіх суполак і ўстаноў, грамадзян, былі лекцыі, канцэрты, а затым яго работа пачала пашырацца і паглыбляцца – адкрыццё беларускіх школ, падрыхтоўка да з'езда настаўнікаў-беларусаў, да Усерасійскага з'езда бежанцаў з Беларусі. Новы імпульс дзейнасці Белнацкама пачаў надаваць яго сакратар Зм. Жылуновіч (Цішка Гартны) – рабочы, з 1902 года член капыльскай арганізацыі РСДРП, удзельнік рэвалюцыі 1905 – 1907 гадоў, удзельнік беларускіх з'ездаў 1917-га ў Мінску, паэт, цяпер бальшавік, рэдактар газеты «Дзянніца», што з 1 сакавіка 1918 года стала першай беларускай савецкай газетай.

Пра савецкасць Белнацкама, «Дзянніцы» сведчыць тое, што яны асудзілі БНР. За што, у сваю чаргу, некаторыя беларускія дзеячы ў Мінску, паўторым, асуджалі Зм. Жылуновіча «за прадажніцтва бальшавікам і за здраду беларускай справе», а таксама і за тое, што на з'ездзе настаўнікаў-беларусаў папрасілі зрабіць даклад Н. Крупскую, а на ліпеньскі Усерасійскі з'езд бежанцаў з Беларусі запрасілі самога Леніна. Той падзякаваў за запрашэнне, зацікавіўся яго работай, але, калі даведаўся, што з'езд ідзе на беларускай мове і на ім моцныя нацыянальныя пачуцці, вылучаецца ідэя ўтварэння Беларускай Савецкай Рэспублікі (у складзе РСФСР), інтарэс да з'езда страціў. Аднак Белнацкаму жыццёва неабходна было яшчэ больш актывізавацца, бо ў паветры запахла новымі пераменамі: 27 жніўня РСФСР і Германія падпісалі Дадатковую дамову, па якой савецкі ўрад падмеўся выплачваць Германіі грашовую кампенсацыю за тое, што яна будзе пакідаць захопленыя землі (значыць, Беларусь для абодвух бакоў была ўсяго толькі разменнай манетаю), а да ўсяго ў Германіі таксама нагрэлася рэвалюцыйная сітуацыя, таму яе войскі былі патрэбныя больш ужо там, чым тут. Адчувалася: рана-позна яны і сыдуць.

Чым болей плённа дзейнічаў Белнацкам, тым цяжэй яму было, асабліва ад мяснікоўцаў. Тыя мала таго, што адмовіліся выдаваць хоць адну беларускамоўную газету («Рунь», як іх прасілі), дык ужо ў кастрычніку адтуль, скажам, са старонак іхняй «Звезды» параненйшаму пагардліва, абразліва і варожа гучала, да слова, з вуснаў сакратара Паўночна-заходняга абласнога камітэта РКП(б) Кнорына: «Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты. Нашей задачей является не создание новых наций, а **уничтожение** (падкрэслена мной, як адно з любімых слоў мяснікоўцаў. – **Г.Д.**) старых национальных рогаток. Белорусское же движение является таким воздвижением новых национальных рогаток, не существовавших до сих пор, а поэтому коммунисты не могут в каком бы то ни было случае принимать участие в этом движении». Мала таго, што зняважалася Беларусь, бачылася ўсяго толькі як Заходняя камуна ці вобласць, дык яшчэ быў замах і на Літву.

Такое хамства не магло не біць па сэрцы і камуністу Жылуновічу, ён раз-пораз просіцца на прыём да Сталіна: што ж гэта такое, Іосіф Вісарыёнавіч, гэта ж нахабства не толькі супраць нас, беларусаў, але і супраць дэкларацый Савецкай улады, супраць 11-га пункта Канстытуцыі! Той ці пасміхаецца, закапыльваючы вока ад дыму з люлькі, ці мармыча штосьці невыразнае, нават па-чалавечы недалюбліваючы: рабочы, а, бач, які заўсёды чысценькі і акуратненькі, на ролю лідэра нацыі пасягае! Жылуновіч ва ўсю спажывае «Дзянніцу», часамі таксама стрэламі адказваючы на стрэлы мяснікоўцаў: вы ж вяртаеце дарэвалюцыйныя, царскія парадкі! Заадно ў гэтых умовах намагаецца хоць бы тут, у Маскве, сабраць у адну арганізацыю ўсе разрозненыя беларускія камуністычныя суполкі, каб дзейнічаць сумесна, больш мэтанакіравана.

3-га лістапада ён здолее склікаць такі сход, дзе будуць камуністы і з акупаванага Мінска (у іхніх шэрагах было больш як 4 000 падпольшчыкаў, частка якіх не цалкам падтрымлівала мяснікоўцаў, шукала сувязяў з Белнацкамам, з беларускімі камуністычнымі суполкамі ў Расіі). На сходзе абмяркуюць становішча, асудзяць БНР, падтрымаюць ідэю Савецкай Беларусі і звернуцца да Прэсненскага райкама РКП(б), каб той зарэгістраваў іхнюю камуністычную секцыю. Улічваючы высокі аўтарытэт Жылуновіча, яму даручаць узначаліць яе.

Мяснікоўцы наступаюць юрыдычна – скарыстаўшы адзін з пунктаў Канстытуцыі (16-ы) пра свабоду арганізацыі і аб'яднання працоўных, праз народны камісарыят унутраных спраў РСФСР спяшаюцца ўзаконіць сваю ідэю: Беларусь і Літву мець за падуладную ім Заходнюю камуну, маўляў, насуперак Радзе БНР у Мінску і Тарыбе ў Вільні. Мяснікоўцы яшчэ болей натхняюцца, паціраюць рукі: як пазней стане вядома, адміністрацыйная камісія ВЦВК на чале з Я. Свярдловым пачала распрацоўваць праект, па якім Савецкая Расія павінна складацца не з нацыянальных рэспублік, а з эканамічных рэгіёнаў: Маскоўскі, Паўночны, Заходні, Уральскі і г.д.

6 лістапада пачаўся IV Усерасійскі Надзвычайны з'езд Саветаў. На ім шмат што вырашалася важнае. Але галоўнае было тое, што, прадчуваючы выбух рэвалюцыі ў Германіі, анулявалі Брэсцкі дагавор. Чырвоная Армія (а з ёю і сфарміраваныя беларускія часці) хутка павінны былі рушыць на Беларусь. Людзі Жылуновіча паспрабавалі перамовіцца з Мясніковым, каб хоць нарэшце паразумецца ў асноўным, пра лёс Беларусі, але той праігнараваў іх. Маўляў, з вамі ўсё ясна, вы будзеце Заходняй вобласцю РСФСР. Абласныя органы ўлады ўжо даўно сфарміраваныя.

Занепакоеныя пытанні са шматлікіх лістоў беларускіх бежанцаў у «Дзянніцу» яшчэ больш змушаюць Жылуновіча пытаць у Савецкага ўрада: што з Беларуссю?

***(Працяг будзе.)***

[1] *Фрагмент.*





***Добры дзень, паважаная рэдакцыя!***

***Пішу вам загадчык экскурсійнага сектара Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту (БДМНАіП) Граблюк Галіна Віктараўна. Вось ужо тры гады я працую ў музеі, пра які можна складаць паэмы і пісаць раманы. Дасылаю вам невялікае эсэ, якое, лічу, дапаможа чытачам азнаёміцца з гэтым незвычайным месцам.***

# Незабыўная песня дзяцінства

Нібы ў сне ўсплываюць перада мною яркія краявіды роднай вёскі: бывае, "гляджу" на ўсё шырока адкрытымі вачыма. Здаецца, час спыніўся і зараз адбудзецца цуд: з хаты выйдзе бабуля і пакліча вячэраць; дзядуля, седзячы каля паветкі, будзе плесці кошык, а я, малая дзяўчынка, заваражона назіраць, як працуе дзядзька Піліп – мясцовы каваль. Чарадзейны звон кузні разносіўся над вёскай, і кожны ведаў: Піліп зноў нешта майструе...



Усё гэта аднойчы вельмі ярка ўсплыло ў памяці, на вачах застылі слёзы: няўжо нельга павярнуць машыну часу назад і на некалькі хвілін адчуць сябе дзяўчынкай, вясёлай і гарэзлівай, што бегала басанож па вуліцы, ганяючы курэй, і чакала з поля дзядулю, які заўсёды прыносіў гасцінец – "зайчыкаў хлеб"?

Ды час пыніць можна. Ёсць у Беларусі месца, якое дорыць людзям успаміны пра салодкія хвіліны дзяцінства, дае волю і лёгкасць. Тут адчуваеш сябе незалежным ад пэўных, нават нялёгкіх абставін жыцця, ад паўсядзённых клопатаў і непаразуменняў. Вы можаце ўсклікнуць: "Што за глупства яна вярзе? Гэта ўсё нейкія настальгічныя вясковыя мроі". Так, мроя. Яна – гэта Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту, куток, дзе мары па-свойму збываюцца.

Кожны з нас па-свойму разумее сэнс жыцця. Для большасці – гэта матэрыяльны дабрабыт. Аднак той, хто ўпершыню наведаў музей, пачынае па-іншаму адносіцца да сябе. Людзі разумеюць альбо павінны разумець, што продкі нашы далі нам галоўнае багацце, якое не купіш ні за якія грошы, – непаўторную духоўную культуру. Адпаведна, берагчы яе – наш найбольшы клопат. Больш – абавязак!

Я звяртаю позірк у мінулае – пачынаю падарожжа па згаданым музеі. Падыходжу да гумна. Сяляне тут сушылі і малацілі збожжа. Адразу ж прыходзяць з памяці коласаўскія радкі: "Не малацьба, а бубнаў хоры". Хораша? Яшчэ як! А яшчэ прыгадваю расказ бабулі пра тое, як маці бачыла ў гумне дзіўнага старога, які ноччу веяў збожжа. Ці не гуменнік быў гэта? Гуменнік – дух, што жыў у гумне, дабрадушны дзядок маленькага росту, падперазаны саламяным перавяслам. Хто ведае, можа размовы пра яго – і ніякі не народны домысел.

"Калі гумно цячэ, то гаспадар з дому ўцячэ", – мудра казалі ў народзе. А я ўспомніла адно з гумнаў у роднай вёсцы: напалову згарэлае, закінутае, зарослае травой. Толькі дзеці гулялі тут у хованкі. Добра, што ў згаданым музеі збераглі помнік, які ўвасабляе адносіны нашага народа да працы. Невыпадкова зноў жа мудра гаварылі: "Красна поле снапамі, а гумно – умалотам".

Дзядуля мой у 1920-я гады мінулага стагоддзя скончыў пачатковую школу. Ды мне было ніякавата, калі ён, здавалася, маючы меншую адукацыю, чым я, рашаў мне, тады вучаніцы 7 класа, задачы па алгебры і геаметрыі, выводзіў формулы па фізіцы. А яшчэ ён ведаў на памяць "Новую зямлю" Я. Коласа, чытаў вершы Я. Купалы і расказваў чарадзейныя казкі. Вучыўся ён амаль у такой вось школе, дзе і я: звычайная вясковая хата, крыху, праўда, большая па памерах. У навучальным класе – парты, настаўніцкі стол, падручнікі. Хочаце ведаць, як праходзілі ў той час заняткі? Пагартайце старонкі твораў У. Сыракомлі, Я. Коласа, В. Ластоўскага, Я. Брыля.

У тым настаўніцкім пакоі – сціплы інтэр'ер. Міжволі ўспамінаеш тагачаснага коласаўскага Андрэя Лабановіча і тую павагу, з якой адносіліся тагачасныя сяляне да тагачаснага вясковага настаўніка.

Тут, у музеі, царква і карчма стаяць побач. І ў гэтым няма нічога дзіўнага. Прыгадаем народнае: "У царкву і кабак адзін андарак".

Пра карчму цудоўна пісалі А. Міцкевіч, Я. Колас, А. Мальдзіс, У. Караткевіч; тут усталяваўся асобны, уласны лад жыцця. Адчуць атмасферу "карчомкі" можна толькі пабываўшы тут: пах дубовай мэблі, апетытныя скруткі каўбас, на паліцах – смакоўнае ў бутэльках. Не хапае толькі музыкаў ды яўрэя-карчмара, што заклікае гасцей. І яшчэ адно вельмі важнае. У карчме не толькі пілі і елі, але і гутарылі, разважалі пра жыццё. На "Гуканне вясны" каля карчмы ладзілі арэлі, гушканне на іх спрыяла здароўю. А на Нараджэнне Хрыстова, Новы год, загавіны перад Вялікім постам "жанілі Цярэшку": выбраныя карчмаром "бацькі" падбіралі, зводзілі, навучалі, рыхтавалі да стварэння моцнай сям'і маладых. "Жаніцьба Цярэшкі" – вельмі сімвалічная гульня хлопцаў і дзяўчат, якая ўяўляе "вяселле некалькіх пар". Выконвалася яна абавязкова ў канцы гулянкі, пасля працяглых скокаў. Гуллівыя "цярэшкі" падабаліся многім:

*Цярэшку бяда стала:*
*З кім яго жонка спала?*
*Ці ў полі пад ліпкаю,*
*З маладым Піліпкаю?*
*Ці ў садзе пад грушкаю,*
*З маладым Андрушкаю?*
*Ці ў гаю зялёненькім,*
*З казаком малодзенькім?"*

Вясковая сцяжынка вядзе мяне да руплівай гаспадыні. Так, так. У гэтай хаце жылі дбайныя гаспадары. Заходзіш – і здаецца: каля печы завіхаецца цётка Ганна, і духмяны водар толькі што засмажанага сала напаўняе пакой. "Ну што, за стол, малы, за стол, старэчы!" Цётка дастае з печы чыгунчык, бярэ лыжку і налівае верашчаку. За сталом моўкне гаворка, сціхае смех. Што любіў есці селянін-беларус? На гэта пытанне ён сам вам і адкажа: *"Няма смачней рыбы, як лінька, і мяса, як свінінка"*. І яшчэ: *"Калі ў жываце з салам капуста, тады і на спіне ў мужыка тлуста", "не еўшы – нудна, пад'еўшы – трудна"*. Але трэба было працягваць паўсядзённую працу, бо *"не раса родзіць, а пот", "дзе гаспадар не ходзіць, там нічога не родзіць", "паміраць збірайся, а жыта сей"*. Сапраўды, "гаспадарка-клапатарка".

Непрыкметна праходзіў час, набліжаліся каляды. Сяляне чакалі свята: "Ой, калядачкі, набліжайцеся, вы, каўбасачкі, прыніжайцеся!"

"Калядкі – добрыя святкі!"

... Разам з гаспадарамі сядаю за калядны стол, дзе на пачэсным месцы, як "цар даўнейшаю парою" ўжо стаіць гаршчок куцці. На свяце ён – персона, "уладар над хлебам і блінамі". Вось чуюцца гоман, смех, музыка.

*Га, калядоўшчыкі завіталі!*
*Неба і зямля, неба і зямля*
*Радасна спяваюць,*
*Анёлы людзям, анёлы*
*людзям*
*Дзіва абвяшчаюць.*

Пасля спеваў калядак гаспадары давалі гасцям "ахвяру": хлеб, муку, соль, каўбасу.

А іх ужо чакалі на Вяліканне ў суседняй хаце. У гэты дзень кожны чуў у сваім сэрцы радасць, і нават "ліхія людзі падабрэлі". Свята пачыналася "ўсяночнай". З Краснай суботы па нядзелю многія не спалі, на вуліцах гарэлі кастры, чулася стральба, у царкве асвячалі пафарбаваныя яйкі, пірагі, хрэн, мяса, мак. Раніцай хадзілі глядзець "гульню" сонца, пафарбаванымі яйкамі гулялі "ў біткі", качалі іх, гушкаліся на арэлях, карагодзіліся. На Вялікдзень хадзілі валачобнікі, яны спявалі песні гаспадару, гаспадыні, хлопцу, бабцы, дзяўчыне і інш. А мяне ветлівая бабулька запрасіла да стала:

*А на стале тым – рай ды годзе,*
*Што рэдка трапіцца ў народзе,*
*Ляжала шынка, як кадушка,*
*Румяна-белая пампушка,*
*Чырвона зверху, сакаўная,*
*Як бы агонь у ёй палае:*
*А ніз бялюткі, паркалёвы,*
*Кілбасы-скруткі, як падковы,*
*Між сцёган, сала і грудзінак,*
*Красуе ўсмажаны падсвінак,*
*Чысцюткі, свежы і румяны,*
*Як бы паніч той надзіманы.*
*Муштарда, хрэн – адно дзяржыся,*
*У рот паложыш – сцеражыся!*
*А пірагі, як сонца, зззялі,*
*І ў роце бабкі раставалі,*
*Са смакам елі і багата –*
*На тое ж даў бог людзям свята*[1].

Але колькі ні святкуй, трэба пачынаць работу. Зноў будзіць вёску срэбны звон кузні. Падыходжу да невялікай пабудовы: тут майстра-каваль вырабляў сапраўдныя творы мастацтва. Помніце Паўлюка Багрыма і яго знакамітую жырандолю! Чаго толькі не гаварылі пра кавалёў у народзе: *"Каваль куе, каваліха пяе", "Калі на двары лёд, то кавалю мёд", "У каваля што стук, то грыўня"*. Ведама адно – чалавек ствараў свой дабрабыт уласнымі рукамі, калі яму дазвалялі творча працаваць.

За кузняй – квецень палёў, блакітная стужка Пцічы, маляўнічы сілуэт ветранога млына. *"Каму што, а мельніку – вецер"*. Старыя людзі і сёння ўяўляюць віхор волатам з тоўстымі вуснамі, якімі асабліва добра дзьмуць. Некаторыя бачаць у ім вясельнае імкненне нячыстай сілы. Кажуць, што нож, кінуты ў сярэдзіну віхуры, пакрываецца крывёю, бо раніць мноства злых духаў.

А яшчэ расказвалі пра "падвея". "Падвей" – шкодны дух, прыносіць разбурэнне, насылае хваробу, нападае на чалавека, можа скруціць яго, адняць мову. Каб абараніцца ад яго, трэба кінуць на вецер жменьку зерня. Млынары ведалі розныя замовы, якія абаранялі ад "падвея", лячылі ваду ад хваробы, што насылае злы дух. Каля млына закончылася мая вандроўка па музеі.

Але засталіся светлыя ўспаміны маленства. Яно нікуды не збегла. Цяпер вось прытулілася ў гэтым непаўторным куточку сярод маляўнічых краявідаў. Яго чароўная песня гучыць у нашых сэрцах, здзяйсняюцца мары, і не такой доўгай здаецца дарога дадому, у вёску.

Хочаце вы, вясковыя і гарадскія, пераканацца ў гэтым самі? Калі ласка, у наш музей пад адкрытым небам!

[1] Колас Я. Новая зямля. Мн., 1975. С. 244.



*Здымкі Глеба ЛАБАДЗЕНКІ*

## Гётэбаргскі кніжны кірмаш

З 25-га па 28-га верасня ў шведскім Гётэбаргу адбыўся чарговы сусветны кніжны кірмаш. Гэта найбуйнейшая ў Скандынавіі культурная падзея стартавала ў 1985 годзе і ад пачатку лучыла кніжны кірмаш з выступамі найлепшых у свеце пісьменнікаў, інтэлектуалаў, журналістаў і праваабаронцаў. Сёлета за чатыры дні Гётэбаргскі кніжны кірмаш наведала больш за 110 тысяч наведвальнікаў. Тэмай году стала Польшча, якую прадстаўлялі каля 40 выдавецтваў і больш за 80 вядомых і маладых польскіх пісьменнікаў, паэтаў і навукоўцаў.

Нашую краіну прэзентавала з уласнай семінарскай аўдыторыяй (НОЗ-31) і кніжным стэндам шведская суполка "Беларусь" на чале з Марыяй Шёдэрбар'ё. Пры фінансавай падтрымцы Шведскага Інстытута сябрам беларускай суполкі ў Швецыі ўдалося годна рэпрэзентаваць Беларусь. Беларуская праграма семінараў не саступала па багацці літоўскай, эстонскай і латышскай часткам, падрыхтаваным на дзяржаўным ўзроўні. З лекцыямі пра Беларусь выступілі вядомы шведскі журналіст Шэль Альбін Абрахамсон (аўтар кнігі пра Беларусь на шведскай мове "Беларусь: 89 міліметраў ад Еўропы"), кіраўнік суполкі "Беларусь" у Швецыі папулярны фотажурналіст Марыя Шёдэрбар'ё, сусветнавядомы польскі пісьменнік і падарожнік Рышард Капусцінскі (аўтар кнігі пра роднае месца "Вандроўка ў Пінск", якая выйшла ў Швецыі), гісторык беларускага паходжання са Стакгольма Андрэй Катлярчук (з прэзентацыяй сваёй новай кнігі "Шведы ў гісторыі і культуры беларусаў"), шведская паэтка беларускага паходжання Інга-Ліна Ліндквіст, былы менчук, а зараз шведскі драматург Дзмітрый Плакс (ягоная п'еса рыхтуецца Нацыянальным Купалаўскім тэатрам), шведскі журналіст Тобіяш Люнгвал, аўтар новай кнігі пра Беларусь на шведскай мове "Кантроль, рэпартаж з Беларусі", паэт і дакументаліст з Мінска Ігар Палевікоў, кіраўнік грамадскай суполкі "Калегіум" з Пінска Надзя Аўсеевіч (з тэмаю "Сэксуальны гандаль жанчынамі: Беларускі бок праблемы").

У "залі паэзіі" пры натоўпе гледачоў уласныя вершы чыталі Дзмітрый Плакс і Інга-Ліна Ліндквіст. Там жа выступіла пераможца "кубка маладзёвай паэзіі", арганізаванага вясною 2003 года ў Пінску шведскай суполкай "Беларусь", 17-гадовая Вольга Панасюк з Пінска. Яна прачытала ўласныя лірычныя і філасофскія вершы па-беларуску, якія прагучалі таксама ў перакладзе Дзмітрыя Плаксы па-шведску і выклікалі зацікаўленне слухачоў. У вялікай семінарскай залі кірмаша дыскусію пра супольную беларуска-шведскую гісторыю ўладкавалі Андрэй Катлярчук і Шэль Альбін Абрахамсон. Марыя Шёдэрбар'ё запрасіла на беларускі фуршэт, падчас якога госці кірмаша агледзелі зробленыя спадарыняй Шёдэрбар'ё слайды беларускага Палесся, набылі шведскія і беларускія выданні, прысвечаныя гісторыі, культуры і сучаснаму становішчу Беларусі, беларуска-шведскім кантактам. Беларуская экспазіцыя прытуліла таксама вядомую расійскую пісьменніцу Таццяну Талстую і яе калегу з Індыі Вандана Шыва (гэтыя краіны не мелі ўласных семінарскіх пакояў).

***АК, Стакгольм***

**(Паводле газеты "Беларус", 2003, № 489)**

***Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ (нарадзіўся ў 1940 годзе ў Смілавічах Чэрвеньскага раёна) зведаў шмат прафесій: працаваў токарам, кінамеханікам, тынкоўшчыкам, мантажнікам на будоўлях у Сібіры, пасля заканчэння політэхнічнага інстытута – інжынерам у сістэме мінаўтатранспарта, экалогіі, а цяпер вось ахоўвае нас, каб мы жылі мірна і спакойна. Пра тых, хто часта мяняе месца працы, бывае не зусім прывабная думка, але што датычыць пісьменніка, то для яго знаёмства з новымі мясцінамі, з новымі людзьмі і іхнімі заняткамі – удзячны матэрыял для твораў. Вось чаму Ул. Шулякоўскі ва ўсім – нататцы, артыкуле, апавяданні – дакладны, з багатымі жыццёвымі назіраннямі і мастацкімі абагульненнямі. Асабліва пераканаўча ён гэта засведчыў у кнізе прозы «Незвычайная карыда», што выйшла ў 2000 годзе ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць».***

***Асабіста мяне нашы выданні для малых дзяцей ужо даўно ўгаворваюць напісаць штосьці для гэтага ўзросту. Калі Ул. Шулякоўскі звярнуўся да мяне з просьбай пазнаёміцца з яго новым рукапісам і менавіта з творамі для малодшых школьнікаў, то, чытаючы іх, дзе героі – мудры дзед і дапытлівы сучасны ўнук, які на «ты» з камп'ютарам, я шчыра парадаваўся за аўтара. Паверце, калі гэты рукапіс выйдзе кнігаю, то яна будзе важкім укладам у прозу для дзяцей: у мініяцюрах, у апавяданнях яе шмат, здаецца, зусім простага, а на самой справе назіральнага, зробленага псіхалагічна тонка, з глыбокім веданнем дзіцячай душы і па-мастацку дасканала.***

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***



## Прарочы сон

Супрацоўнік аб'яднання «Ахова» пры МУС Віктар Фёдараў успрымаў з гумарам і нават насмешкамі расказы пра ўсялякія там прарочыя сны, варажбу. Жартаваў над людзьмі, якія вераць у гэтыя, як ён лічыў, казкі.

І вось адбыўся выпадак, які змяніў яго перакананні.

Аднойчы ён убачыў калону танкаў, лязгат іх гусеніц быў чамусьці вельмі падобны на перастук колаў цягніка на рэйках. Міма праскочыў адзін танк, другі, трэці. Чацвёртая стальная грамадзіна раптам павярнула на аўтобусную будку, у якой ён стаяў. «Усё, – паспеў падумаць Віктар, – канец». Яго ахапіў жах, і ён... прачнуўся ў халодным поце ў вагоне цягніка.

Прыехаўшы на станцыю Курган-Цюбе ў Таджыкістане, куды ён суправаджаў груз, у турботах рабочага дня забыўся пра свой сон. Надвячоркам, чакаючы аўтобуса, стаяў на аўтобусным прыпынку, які быў абсталяваны глінабітнай будкай. Побач стаяла жанчына. Разгаварыліся. Раптам вушы Віктара ўлавілі гул, які хутка набліжаўся. «Танкі», – падумаў Віктар. І сапраўды! Праз некалькі хвілін з-за павароту паказалася калона танкаў. Яны ішлі на вялікай хуткасці. Першы, другі, трэці праскочылі міма. У Віктара пахаладзела ўнутры: як у калейдаскопе, у галаве пракруціліся кадры сну, які бачыў напярэдадні. Чацвёрты танк набліжаўся... Не ўсведамляючы, што робіць, Віктар хапае сваю суразмоўцу за руку і цягне ўбок. Тая ўпарціцца, не разумеючы, чаго ён хоча ад яе. Тузануўшы яе з усіх сіл, Віктар вылятае з аўтобуснай будкі. А праз імгненне ў яе ўразаецца танк: нешта адбылося з сістэмай кіравання баявой машыны.

Жанчына была белая як палатно: выпадковы сустрэчны выратаваў яе. Ды і Віктара калаціла як асінавы ліст: калі б нехта не перасцярог яго ў сне, гісторыю гэту ён ужо нікому б не расказаў.

## У сарочцы нарадзіўся

Лейтэнант Анатоль РамаНоўскі з Рудзенска ў пачатку пяцідзесятых гадоў працаваў у Кітаі парашутыстам-інструктарам, вучыў кітайскіх парашутыстак. Дзяўчаты былі вельмі працавітыя і паслухмяныя, таму турбот з імі не было. Але час вучобы вельмі скарацілі: у гэты час Кітайская народная армія ўступіла ў вайну ў Карэі супраць амерыканскіх і паўднёвакарэйскіх войскаў. Анатоль пачаў навучаць зацяжным скачкам, якія дазваляюць паменшыць страты ад варожага агню пры дэсантаванні. Пры зацяжным скачку парашутыст ляціць як камень, не раскрываючы парашута. Толькі праз нейкі час пасля адрыву ад самалёта парашут разгортваюць.

У час новай трэніроўкі Рамаоўскі паказваў сваім вучаніцам, як рабіць зацяжны скачок з вышыні трох тысяч метраў. Адштурхнуўшыся ад самалёта, распластаўся ў паветры. Чамусьці трывожна заныла сэрца. Дзіўна. Раней заўсёды адчуваў велізарную радасць ад свабоднага палёту, якую адчувае, відаць, толькі птушка, лунаючы ў паветры. Праляцеўшы крыху больш дзвюх тысяч метраў, лейтэнант тузануў кольца парашута: звыклага трэску не пачулася. Ён імкліва падаў. Тузануў яшчэ, але нічога не змянілася. Што здарылася? Раней усё праходзіла гладка. Ад хвалявання аж узмакрэў. Ён сабаку з'еў на скачках з парашутам і добра ведаў, што рабіць у такіх выпадках. Але цяпер, разгубіўшыся і страціўшы кантроль часу, ён працягваў тузаць кольца. Успомніў пра запасны парашут, калі да зямлі заставаліся лічаныя метры. Паспрабаваў раскрыць, але было позна. Зямля наляцела імгненна, гатовая расплюшчыць кволае чалавечае цела. «Усё. Канец... Божа, памілуй!..» – Анатоль зашаптаў словы, якія ў хвіліны адчаю паўтарала яго маці.

Апрытомнеў Раманоўскі ў шпіталі. Застагнаў ад нясцерпнага болю. Над ім нахілілася кітаянка ў белым халаце. «Дзякуй Богу, жывы», – узрадавала першая думка... Амаль год пракачаўся Анатоль Раманоўскі на шпітальным ложку. Моцны малады арганізм, добры прыгляд і лячэнне зрабілі сваё: ён пачаў паволі папраўляцца, прыходзіць у сябе ад перажытага жаху і шматлікіх траўм.

«У сарочцы нарадзіўся», – казалі яму. І сапраўды, маці расказвала, што ён з'явіўся на свет не голы, як звычайна, а ў «сарочцы» – яго галоўка была пакрыта каляплоднай плеўкай. А такім Бог памагае... Вось і ўсміхайся з павер'яў. Там, дзе ён упаў, аказалася балота. Гэта і выратавала ад немінучай смерці.

## Падзяліся шчасцем

У жыцці многіх людзей былі моманты, калі яны адчувалі ў сваёй душы такі магутны ўздым, што перад імі адкрываліся незвычайныя магчымасці, можна сказаць, амаль фізічная сувязь з Космасам, з Вышэйшымі сіламі...

У 1971 годзе я абараніў дыплом у Беларускім політэхнічным інстытуце. Сядзеў у аўдыторыі, чакаючы астатніх. Такі ў мяне быў настрой, такі эмацыянальны ўздым, што я гатовы быў абняць увесь белы свет. З мяне проста біла бурлівая энергія... Раптам я звярнуў увагу на хлопца, які нечым быў вельмі засмучаны, на яго вачах бачыліся слёзы. Побач сядзеў яго сябра, ад якога я давedaўся, што хлопцу вельмі не шанцуе ў жыцці: колькі разоў паступаў у інстытут і ніяк не ўдавалася гэта зрабіць. А вось цяпер, пасля двух гадоў вучобы, выключаюць яго з БПІ: некалькі разоў спрабаваў, але так і не змог здаць адзін з прадметаў, здаецца, тэарэтычную механіку ці тэорыю механізмаў і машын – ТММ, якую студэнты жартам і ўсур'ёз расшыфроўвалі – тут мая магіла. Многія, і студэнты, і выкладчыкі, спрабавалі ўгаварыць прафесара. Але той быў няўмольны: упёрся – як каменная сцяна. Відаць, не паладзіў са студэнтам і зараз помсціць. Хто ведае, што з гора студэнт можа зрабіць з сабой...

Мне стала так шкада хлопца, так захацелася яму дапамагчы!.. І тут я адчуў, быццам нейкі сноп святла льецца на мяне зверху, нейкае ззянне вакол. У гэты момант я чамусьці быў абсалютна ўпэўнены, што дапамагу хлопцу. Спытаў прозвішча выкладчыка. Узяў у студэнта-завочніка заліковую кніжку і пайшоў да прафесара, якога зусім не ведаў... Што я яму казаў, якія аргументы прыводзіў, – не памятаю. Але нябачнае святло было вакол мяне: гэта я амаль фізічна адчуваў. І што вы думаеце!

Прафесар, які ніколі раней не бачыў мяне, нічым не быў мне абавязаны, не вагаючыся, узяў у мяне заліковую кніжку таго студэнта-небаракі і вывеў здавальняючую адзнаку. Здаецца, нават спытаў, што трэба паставіць.

Студэнт-завочнік з Брэсцкай вобласці, беручы з маіх рук заліковую кніжку, плакаў і смяяўся, не верачы ў выратаванне. А для мяне радасць была двайной: за яго я радаваўся, здаецца, не менш, чым за сябе.

Не ведаю, ці то незвычайны эмацыянальны пад'ём у той момант так узмацніў маё біяполе, што мне падпарадкаваўся нават няўмольны прафесар, ці сам Гасподзь дапамог таму хлопцу, а я быў толькі пасрэднікам.

## Біямер у Ялце

Але ў мяне такіх выпадкаў было няшмат. А вось у жыцці вядомай журналісткі Тамары Сяргееўны Тарасавай яны здараюцца на кожным кроку. Гэта пацвердзілі і яе калегі па рабоце, якія не раз былі сведкамі падобных здарэнняў. І ўсё таму, сцвярджае Тамара Сяргееўна, што ў яе вельмі моцнае біяполе.

Гадоў дваццаць назад яна адпачывала ў Ялце. Ідзе па курортным гарадку. Стаіць чарга, але нічога не прадаюць. Аказваецца, навуковыя супрацоўнікі НДІ вымяраюць біяполе жадаючых. Людзі падыходзяць па чарзе, кладуць руку на нейкі прыбор. У адных стрэлка даходзіць да сярэдзіны, а ў іншых – ледзь рухаецца. Значыць, нешта не так са здароўем. Такім раюць абследавацца ва ўрачоў і падлячыцца.

Падышла чарга Тамары. Толькі палажыла руку на цыферблат – стрэлка аж зашкаліла! «О-о-о! – здзівіліся вучоныя-біяэнергетыкі, – у вас такое моцнае біяполе!» Даўшы адрас, параілі пайсці на курсы ў іх інстытут. «Тады вы, як Джуна, зможаце лячыць людзей. Праславіцеся на ўвесь свет». Але ў Тамары не было цягі да славы, ды і часу да канца адпачынку заставалася – два дні. Яна не паддалася на спакусу.

Адзін Бог ведае, ці стала б яна другой Джунай, – паслухайся парады тых людзей.

*По літаратурнай Беларусі*

**Серыю кніг «Беларусь літаратурная» распачало выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мяркуецца асобнымі зборнікамі наладзіць агледзіны розных рэгіёнаў краіны, зазірнуць у іх мінуўшчыну і сённяшні дзень.**

**Першы том прысвечаны Полаччыне – калысцы дзяржаўнасці, краю з выдатнымі ўзорамі красамоўства. Уклаў зборнік Навум Гальпяровіч. Тут прадстаўленыя творы ад часоў Ефрасінні Полацкай да нашых дзён. І ў большасці гучыць тэма роднай зямлі, любові да куточка, дзе творца з'явіўся на свет.**

**Цікавы экскурс Сяргея Панізьніка па гісторыі Полаччыны, знаёмства з культурнымі традыцыямі гэтай зямлі, колішняга Полацкага княства.**

**Некаторыя тэксты кнігі могуць быць нечаканымі для многіх чытачоў і цікавыя не толькі літаратуразнаўцам ды гісторыкам. Прыкладам, пра ўзаеміны Полацкага княства са Скандынавіяй. Пра што і знаходзім згадкі ў сагах, эпасе старажытных скандынаваў. Мы прапануем чытачам «Краязнаўчай газеты» пазнаёміцца з даследаваннем Лявона Баршчэўскага, прысвечаным гэтаму.**

# Пра Полацк — у скандынаўскіх сагах

Важным перыядам у гісторыі скандынаўскіх народаў, продкаў сённяшніх ісландцаў, нарвежцаў, шведаў, былі IX – XI стагоддзі, калі скандынаўскія конунгі (князі) вялі шматлікія захопніцкія войны. На Русі скандынаваў ведалі пад імем варагаў.

Пра падзеі гэтага часу захавалася нямала гераічных эпічных песенных цыклаў («Малодшая Эда», складзеная ў XIII стагоддзі Сноры Стурлусанам, песні скальдаў).

Вялікую цікавасць уяўляюць ісландскія празаічныя сагі X – XIV стагоддзяў. У некаторых з іх гаворка ідзе пра падзеі, што адбываліся або маглі адбывацца на беларускай зямлі.

У «Сазе аб хрышчэнні» галоўнай дзейнай асобай выступае Турвальд Вандроўнік, удзельнік хрысціянізацыі Ісландыі ў канцы X стагоддзя. Адтуль ён выправіўся ў Іерусалім. Вяртаючыся на радзіму ў Скандынавію, Турвальд памёр і быў пахаваны, як гаворыць сага, «каля царквы Іаана Хрысціцеля, што непадалёк ад Полацка».

Больш падрабязныя і цікавыя звесткі пра ўзаемадачыненні Полацка і скандынаўскіх конунгаў мы знаходзім у «Сазе пра Эймунда Хрынгсана». Яе галоўны герой Эймунд гаворыць: «Я чуў пра смерць Вальдымара-конунга (кіеўскага князя Уладзіміра Святаслававіча. – **Л. Б.**) з усходу, з Гардарыкі (Русі), і гэтымі землямі цяпер валодаюць трое ягоных сыноў, славутых мужоў. Ён падзяліў землі не зусім пароўну – аднаму дасталося больш за тых двух астатніх. І клічуць Бурыцлавам (Баляславам – так памылкова названы князь Святаполк Акаянны. – **Л. Б.**) таго, хто атрымаў большую долю бацькавае спадчыны, і ён – самы старэйшы сярод іх. Другога завуць Ярыцлейф (Яраслаў Мудры), а трэцяга Вартылаў (полацкі князь Брачыслаў Ізяслававіч). Бурыцлаў трымае Кэнугард (Кіеў), а гэта – найлепшае княства ва ўсім Гардарыкі. Ярыцлейф трымае Хольмгард (Ноўгарад), а трэці – Палтаск'ю (Полацк) і ўвесь край, што сюды належыць. Цяпер у іх разлад з-за тых земляў, і болей за ўсіх незадаволены той, чыя доля пасля падзелу большая і лепшая: ён бачыць страту для сваёй улады ў тым, што ягоныя ўладанні меншыя ад бацькавых, і мяркуе, што праз гэта ён стаіць ніжэй за сваіх продкаў. І прыйшло мне цяпер у галаву, калі вы будзеце згодныя, адправіцца туды і пабываць у кожнага з гэтых конунгаў, а болей у тых, якія хочуць трымаць свае ўладанні і якім досыць таго, чым надзяліў іх іхні бацька. Нам гэта будзе добра: здабудзем багацце і славу...»

Эймунд удзельнічае ў бітве супраць Бурыцлава на баку Ярыцлейфа і перамагае кіеўскага князя. Ён бярэ ўдзел у паходзе полацкага князя Вартылава на Ноўгарад, пасля таго як наш князь атрымаў адпаведную згоду полацкага веча.

У сазе няма апісання, як адбывалася ўзяцце Ноўгарада. Тут гаворыцца, што дружыны Вартылава і Ярыцлейфа сышліся ў адным месцы і стаялі сем начэй, рыхтуючыся да бітвы. У вырашальны момант з'явілася жонка наўгародскага князя Інгігерда (дачка шведскага конунга Улафа), і пры яе дапамозе быў заключаны мір: «Яна сказала Ярыцлейфу-конунгу, што ён будзе трымаць найлепшую частку Гардарыкі – Хольмгард, а Вартылаў – Кэнугард, другое лепшае княства з данінаю і пабораmi; гэта – напалову больш, чым было дагэтуль. А Палтаск'ю і землі, што да яго належаць, атрымае Эймунд і будзе над імі конунгам..., бо мы не хочам, каб ён пакінуў Гардарыкі». Дарэчы, іншыя гістарычныя крыніцы не пацвярджаюць таго, што і Эймунд калі-небудзь валодаў Полацкім княствам. Такім чынам, аўтар сагі свядома ўвёў у яе фантастычны элемент, і было б няправільна разглядаць твор пра Эймунда толькі як гістарычны дакумент. Мноства дыялогаў, напісаных тагачаснай ісландскай моваю, робяць сагу найперш мастацкім творам, цікавым для сённяшняга беларуса.

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*







## Ад дзядзькі Антося




– Яшчэ пра вяскова-дачныя клопаты першых зімовых месяцаў. Мінулы раз я раіў часта зазіраць у пограб, каб паглядзець, як сябе паводзяць бульба, капуста, буракі і морква і г.д.А вось цяпер хочацца дадаць: сёлета, чаго даўно ўжо не было, насыпала вельмі шмат снегу, ад чаго шкодзяцца электрычныя лініі ( не адна сотня вёсак некаторых нашых абласцей пэўны час заставалася без святла), не вытрымлівалі некаторыя дахі дамоў і фермаў, было нямала аўтадарожных аварый. Таму, сябры, на двары ці на лецішчы звярніце ўвагу на пладовыя дрэвы, асцярожна абтрасіце з іх снег, каб з-за яго пры змене надвор'я (пасля адлігі – мароз) яны не паламаліся. Абтапчыце снег вакол маладых дрэўцаў, перагарадзіце шлях да стваллў з маладой карой грызунам. Ды і да маладых карэньчыкаў, калі зямля не замерзла, шкоднікаў не дапусціце.

Падбайце пра птушак – зрабіце розныя кармушкі з зернем, крупамі; да іх, кармушак, дападуць буйныя птушкі (тыя ж вароны) і могуць іх абарваць. Для дробнага птаства можна свежым несалёным салам нацерці ствалы і буйныя галіны, яму і гэтым хопіць падсілкавацца. А вясной яны аддзякуюць вам, будуць на гэтых дрэвах знішчаць кветкаедаў і іншых розных шкоднікаў.

У цёплым доме перагледзьце, як захоўваюцца часнок і цыбуля, якія вы, канечне ж, захоўвалі пры тэмпературы 0 – 3 градусы. Калі, скажам, каліва цыбулі становіцца вадзяністым, жоўта-ружовым, а размякчэлая шыйка выцягваецца, то цыбуля захварэла шэйнай гніллю. Услед наступіць працяг хваробы – плесень, чорная скурка. Каб на наступны сезон гэтага не было, перад захаваннем не лянуйцеся сушыць цыбулю на сонцы. Плесень (зялёная), зморшчанне, пацямненне псуюць і часнок. Яго таксама трэба было ў свой час падсушыць пры тэмпературы 30 – 40 градусаў. Цяпер захварэлыя каліві трэба неадкладна выдаліць з агульнага сховішча.

Сёлета снегу шмат, не трэба яго затрымліваць, накідаць з дарогі на ўчастак. Вольны час можна прысвяціць іншаму – па меры эканоміі сродкаў набывайце новы інвентар, перагледзьце запас насення, час яго захоўвання, сёе-тое са старога праверце на прарост, дакупіце новае, як і набывайце грунт-зямлю, калі ў вас ёсць інтарэс самім атрымліваць расаду (у першай палове лютага можна пачаць з памідораў).

На сваім вопыце пераканаўся, што насенне агуркоў, кабачкоў, пацісонаў, гарбузоў прыдатнае да 7 – 8 гадоў (леташняе насенне ўжываць рызыкоўна, бо можа быць шмат пустацвету), памідораў і капусты, усіх рэдзькавых, буракоў – да 4 – 5 гадоў, морквы – да 3 – 4 гадоў, пятрушкі, кропу, цыбулі рэпкавай – 2 гады, сельдэрэю – 1 – 2 гады.

*(Працяг будзе.)*

## З глыбіні стагоддзяў

# Ён, муравей...

У многіх краінах свету, калі хочуць падкрэсліць руплівасць, працавітасць і карыснасць працы чалавека, то кажуць: ён – пчала, муравей...

Сапраўды, гэтыя насякомыя – выключныя працаўнікі; пчала дае нам цудадзейнае з цудадзейных – мёд з усіх красак, нектар, эліксір, без яе мы не зведалі б з прыроды аднаго з самага дзівоснага і лекарскага. Плён працы мураўя шырокаму колу людзей менш вядомы, але гэтая праца (найперш для здароўя лесу, для розных назіранняў) вялікая.

Як пісаў класік, мы не заўсёды цікаўныя, мабыць, асабліва цяпер, калі вельмі затурбаваныя не толькі заўтрашнім, але і сённяшнім днём, калі найбольшую нашу ўвагу прыцягвае скрынка-тэлевізар, па якім штодзень не столькі развіваюць, задавальняюць нашыя здаровыя цікаўнасць, здзіўленне і захапленне – рысы, без якіх не можа быць глыбокай чалавечая душа, – колькі глушаць яе паказам насілля і пошласці.

А цікаўнае – побач. Вось нядаўна ў БДУ адбылася міжнародная палеанталагічная выстава «Каменная казка», дзе можна было пабачыць працаўніка-мураўя, якому... 50 ці 60 мільёнаў гадоў! Бедны, трапіў у смалу, загінуў, застыў у бурштыне, але і мёртвы для нас – госць больш чым з сівой даўніны!. Нібыта наш, сённяшні. Яго, абурштыненага навек, па-свойму прыгожага, знойдзенага ў тарфяніках Кобрынскага раёна, паспрыяў пабачыць брэсцкі вучоны-мінеролаг А. Багдасараў, які сабраў калекцыю даўняга бурштыну з маленькімі насельнікамі нашай зямлі. Сваю калекцыю вучоны мяркуе падарыць Нацыянальнаму музею прыроды і экалогіі краіны.

# У 2004 годзе спаўняецца:

**Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь** (Белтэлерадыёкампанія; 1924) – 80 гадоў з часу стварэння (першая перадача адбылася 15.11.1925 г.).

**«Купава», Віцебская фабрыка мастацкіх вырабаў** (1929) – 75 гадоў з часу заснавання.

**«Сям'я і школа», культурна-грамадскі і педагагічны часопіс** (Вільня; выдаваўся ў 1929 г.) – 75 гадоў з часу выдання.

**Інстытут гісторыі НАН Беларусі** (Мінск; 1929) – 75 гадоў з часу стварэння.

**Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа НАН Беларусі** (Мінск; 1929) – 75 гадоў з часу заснавання.

**Баранавіцкі краязнаўчы музей** (1929) – 75 гадоў з часу заснавання.

**«Прамень», мастацкае аб'яднанне** (Мінск; 1929–1932) – 75 гадоў з часу заснавання.

**Обальскі керамічны завод** (1929) – 75 гадоў з часу заснавання.

**«Летапіс часопісных артыкулаў»**, дзяржаўны штомесячны бібліяграфічны паказальнік Беларусі (Мінск; 1934) – 70 гадоў з пачатку выдання.

**Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці** (Гродна; 1944) – 60 гадоў з часу заснавання.

**Мастацкі фонд Беларусі**, грамадская арганізацыя пры Саюзе мастакоў Беларусі (1944–1990) – 60 гадоў з пачатку існавання.

**«Дзеці партызана»**, першы беларускі каляровы мастацкі фільм (1954) – 50 гадоў з часу выхаду на экраны.

**Магілёўскі абласны драматычны тэатр** (1954) – 50 гадоў з часу стварэння (адкрыты 29.10.1954 г.).

**Манумент Перамогі** (Мінск; 1954) – 50 гадоў з часу ўстанаўлення ў гонар воінаў Савецкай Арміі і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну (адкрыты 04.07.1954 г.).

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом**, добраахвотная грамадская арганізацыя (1964) – 40 гадоў з часу стварэння.

**Новалукомль, г.** (1964) – 40 гадоў з часу ўзнікнення.

**Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей** (1964) – 40 гадоў з часу заснавання (адкрыты ў 1968 г.).

**«Белмастацкераміка»**, Радашковіцкі завод (1974) – 30 гадоў з часу стварэння.

**«Верасы»**, вакальна-інструментальны ансамбль, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980 г.) (Мінск; 1974) – 30 гадоў з часу стварэння.

**«Прарыў»**, мемарыяльны комплекс у гонар прарыву варожай блакады партызанамі ў ходзе Полацка-Лепельскай бітвы 1944 г. (Ушац. р-н; 1974) – 30 гадоў з часу стварэння (адкрыты 30.06.1974 г.).

**«Сябры»**, творчае аб'яднанне «Студыя «Сябры» (Мінск; 1974) – 30 гадоў з часу стварэння.

**«Харошкі»**, Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль, заслужаны калектыў Беларусі (Мінск; 1974) – 30 гадоў з часу стварэння.

**«Чараўніцы»**, эстрадна-харэаграфічны ансамбль (Мінск; 1974) – 30 гадоў з часу стварэння.

**Мотальскі музей народнай творчасці** (Іван. р-н; 1979) – 25 гадоў з часу заснавання (адкрыты 13.08.1995 г.).

**Чырвоная кніга Рэспублікі Беларусь**, афіцыйны дакумент, які змяшчае звесткі пра віды жывёл і раслін на тэрыторыі Беларусі, што з'яўляюцца рэдкімі або знаходзяцца пад пагрозай знікнення, (1979) – 25 гадоў з часу заснавання.

*(Працяг будзе.)*

## Новыя кнігі 2003 года

Азёры Беларусі ў легендах і паданнях (Укладанне, запіс, апрацоўка А. Ненадаўца). Мн.: Беларусь, 2003.

Документы по истории православной церкви на Беларуси XVIII – XX веков в фондах государственных архивов Республики Беларусь. Межархивный справочник. Аўтар-складальнік А. Дабычын і інш. Мн.: БелНІДАД, 2003.

Рагойша В. П. На шляху да Парнаса: даведнік маладога літаратара. Мн.: Навука і тэхніка, 2003.

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

**Арнаментыка** – сукупнасць гукаў, якія аплятаюць асноўную лінію мелодыі. Адрозніваюць мелізмы – устойлівыя па форме дробныя меладычныя групы (фаршлаг, мардэнт, групета, трэль; у нотным тэксце выпісваюцца дробнымі нотамі або перадаюцца спецыяльнымі знакамі) і свабодную арнаментыку – апяванне гукаў асноўнай меладычнай лініі рознага роду меладычнымі фігурацыямі, фіярытурамі, пасажамі.



Мастацкія функцыі і выразныя магчымасці арнаментыкі ў многім залежаць ад умоў яе ўжывання (фактуры, асаблівасцей музычных інструментаў, вышыні і рухомасці пеўчых галасоў). Сярод стылістычных з'яў, якія вызначаюцца багаццем арнаментыкі, – спевы ў старажытнаславянскім мастацтве, французская клавесінная музыка XVII – XVIII стагоддзяў («галантны стыль»), італьянская опера XVIII стагоддзя. Для сучаснай прафесійнай музыкі мала характэрная; выключэнне складаюць тэмы, заснаваныя на стылізацыі. Вытокамі арнаментыка звязана з мастацтвам імправізацыі і таму вельмі пашырана ў аўтэнтычным музыкальным фальклоры. Сярод вялікай разнастайнасці яе форм у фальклоры вылучаюцца два тыпы: суразмерная арнаментыка, якая заключаецца ў перыядычным паўторы меладычных груп і выконвае ў асноўным функцыю ўпрыгожання, і несуразмерная, арнаментыка ў характары rubato, функцыяй якой з'яўляецца акцэнтаванне асобных гукаў мелодыі, павышэнне яе экспрэсіі. У беларускім фальклоры першая выступае як тэндэнцыя пераважна ў інструментальнай музыцы, другая – у вакальнай, але многае залежыць ад мясцовых музычных традыцый.

**Арнат** (ад лац.) – верхняе літургічнае адзенне рымска-каталіцкага духавенства. Складаецца з двух палотнішчаў, закругленых унізе і змацаваных плечавымі швамі. Апранаецца праз галаву, паверх іншага адзення. Да эпохі барока арнаты мелі выгляд палярыны, перад якой азадбляўся вертыкальна нашытым пасам, тыльны бок – нашытым крыжам. Барочным арнатам уласцівы фігурныя краі пярэдняга палотнішча, якое набыло абрыс віяланчэлі. На Беларусі захаваліся арнаты XVII – XIX стагоддзяў, якія з'яўляюцца творамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Яны пашыты з парчовых і шаўковых тканін, атласу, аксаміту адпаведнага канкрэтнай літургіі колеру (зялёнага, фіялетавага, белага, чырвонага, сіняга) і аздоблены аплікацыяй або гафтам, тасьмой і карункамі з залатымі ці сярэбранымі ніткамі, часта жэмчугам і каштоўнымі камянямі. Арнаты, зробленыя са слуцкіх паясоў, былі выяўленыя ў час навуковых экспедыцый у некаторых касцёлах Брэсцкай вобласці (в. Чаркаўчыцы і Новая Мыш, г. Косава). Значная калекцыя арнатаў з мастацкіх тканін беларускіх мануфактур XVIII – XIX стагоддзяў зберагаецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ НАН Беларусі. Цікавыя калекцыі арнатаў XVII – XVIII стагоддзяў знаходзяцца і ў іншых мінскіх музеях.

**Арсенал** (фран. італ. ад арабскага майстэрня) – памяшканне, прызначанае для захавання ваеннай зброі і боепрыпасаў, часткова для іх вырабу і рамонту. На Беларусі будаваліся ў буйных замках, абарончых мясцінах гарадоў. Гэта былі вялікія цагляныя або драўляныя звычайна аднапавярховыя пабудовы, у іх вылучаліся памяшканні, дзе захоўваліся гарматы, стрэльбы, халодная зброя, запасы пораху, ядраў, куль і г.д., неабходных для абароны замка, горада. У XVII – XVIII стагоддзях арсеналы існавалі ў Слуцку, Крычаве і іншых гарадах, у XIX стагоддзі – у Бабруйскай крэпасці.

*(Працяг будзе.)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасный – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Першы нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары дасылаюць у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 05.02. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
Заказ 219.
Тыраж 1050.